Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 21 лістапада 1986 г. № 47 (3353) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ

У Івацэвіцкім раёне добра ведаюць аператара аб'яднання «Івацэвічдрэў» Наталлю Міхайлаўну ПАЛЯЧОК. Выдатная працаўніца, чулы чалавек, яна з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Фота С. КРЫЦКАГА

## У НУМАРЫ:

## НАВіНЫ ТЫДНЯ

### КУРС—ПАСКАРЭННЕ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ

17—19 лістапада адбылася шостая сесія Вярхоўнага Савета СССР адзінаццатага склікання. На ёй разгледжаны наступныя пытанні:

1. Аб Дзяржаўным плане эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1987 год і аб ходзе выканання Дзяржаўнага плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР у 1986 годзе.
2. Аб Дзяржаўным бюджэце СССР на 1987 год і аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту СССР на 1985 год.
3. Аб дзейнасці Камітэта народнага кантролю СССР.
4. Аб праекце Закона СССР аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці.
5. Аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

### 40-ГОДДЗЮ ЮНЕСКО ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

У рэспубліцы праходзяць мерапрыемствы, прысвечаныя 40-годдзю ЮНЕСКО — Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры, членамі якой з 1954 года разам са 158 дзяржавамі з'яўляюцца Савецкі Саюз, Украінская ССР і Беларуская ССР. Да гэтай знамянальнай падзеі падрыхтавалася і выдавецтва «Навука і тэхніка», якое выпусціла брашуру Л. Языковіч «Дзейнасць Беларускай ССР у ЮНЕСКО».

Аўтар прасочвае, як на працягу больш чым трыццаці гадоў наша рэспубліка прыкладае ўсе намаганні для павышэння прэстыжу і значэння ЮНЕСКО ў галіне міжнароднага супрацоўніцтва, ажыццяўляе канкрэтныя мерапрыемствы па правядзенні ў жыццё праграмы гэтай міжнароднай арганізацыі, імкнучыся прыцягнуць да яе праблем шырокую грамадскасць.

Пра культурны абмен паміж народамі расказваецца ў раздзеле «Паглыбленне міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне культуры». З яго бачна, як актыўна прымае рэспубліка ўдзел у рабоце канферэнцый, нарад, сустрэч ЮНЕСКО, іншых мерапрыемстваў, прысвечаных надзённым праблемам інтэрнацыянальных сувязей культур. Расказваецца пра публікацыі беларускіх аўтараў на старонках часопісаў «Новости ЮНЕСКО», «Хроника ЮНЕСКО», «Кур'ер ЮНЕСКО», іншых выданняў.

С. ЯРЭМІЧ

### СУСТРЭЧЫ НА ХОЙНІЦКАЙ ЗЯМЛІ

У Хойніках адбылася сустрэча маладых пісьменнікаў з вучнямі і настаўнікамі сярэдняй школы № 3. Сардэчна віталі хайнічане свайго земляка М. Мятліцкага, які перадаў у дар школе прысуджаную яму сёлета прэмію Ленінскага камсамола Беларусі. Кабінет беларускай мовы і літаратуры папоўніўся кнігамі з аўтографамі К. Крапівы, П. Панчанкі, І. Шамякіна, Я. Брыля, М. Лужаніна, Б. Сачанкі, А. Грачанікава, І. Пташнікава, Р. Барадуліна і многіх іншых вядомых паэтаў і празаікаў.

У час сустрэчы сакратар Хойніцкага РК КПБ В. Пінчук уручыў М. Мятліцкаму Ганаровую грамату Хойніцкага РК КПБ і раённага Савета народных дэпутатаў за актыўную работу па эстэтычным выхаванні працоўных раёна.

Перад вучнямі выступілі паэты В. Спрынчан, А. Канапелька, Я. Хвалей.

К. АЛАВА

### СПРАВАЗДАЧА ПРАЗАІКА

На пасяджэнні сакратарыята СП БССР адбылася творчая справаздача лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі празаіка Уладзіміра Арлова, які цікава зарэкамендаваў сябе ў гістарычнай прозе. Пад час абмеркавання творчасці маладога пісьменніка закраналіся надзённыя пытанні развіцця гісторыка - рэвалюцыйнай літаратуры.

Ва ўступным слове першага сакратара праўлення СП БССР Н. Гілевіча было адзначана, што гістарычная літаратура павінна мець навуковы грунт, пры адлюстраванні фактаў з жыцця рэальных гістарычных асоб творца павінен кіравацца перш за ўсё прынцыпамі мастацкай праўды.

Гістарычная тэматыка ў беларускай літаратуры распрацавана недастаткова — адзначалася ў выступленні старшыні праўлення СП БССР М. Танка. Літаратура без гістарычнай асновы, што дрэва, якое не мае карэнняў. А таму распрацоўка гістарычнай тэматыкі — сёння першачарговая задача маладога пакалення.

У абмеркаванні творчасці У. Арлова прынялі ўдзел У. Дамашэвіч, Я. Брыль, Л. Дайнека, Э. Ялугін, В. Адамчык, А. Жук, В. Карамазаў, У. Якутаў, В. Зуёнак. У выступленнях адзначалася, што абмеркаванне творчасці У. Арлова з'яўляецца ў той жа час спробай асэнсаваць агульныя тэндэнцыі маладой беларускай прозы. У. Арлоў, які прыйшоў у літаратуру са сваёй, гістарычнай, тэмай, піша ўпэўнена і пераканаўча, імкнецца ісці ад рэалізму фактаў, добра арыентуецца ў матэрыяльнай культуры мінулага і абапіраецца ў сваёй творчасці на канкрэтныя гістарычныя імёны. Аднак празаіку неабходна паглыбіць сацыяльныя матывы дзеянняў сваіх герояў, пазбавіцца залішняга рамантызму, пераадолець ілюстрацыйнасць. Апавяданні У. Арлова, якія з'явіліся ў апошні час на старонках перыядычнага друку, нясуць у сабе часам інфармацыйны пачатак, але і гэта патрэбна, каб ліквідаваць распаўсюджаны ў нас комплекс гістарычнай непаўнацэннасці.

Адзначалася таксама, што пры звароце да гістарычных фактаў пісьменнікам - гісторыкам неабходна больш уважліва адносіцца да першакрыніц. Была выказана прапанова стварыць савет па гісторыка-рэвалюцыйнай літаратуры пры СП БССР.

Уладзімір Арлоў, які выступіў у заключэнне, пагадзіўся з некаторымі заўвагамі, у прыватнасці, з тым, што часам логіка фактаў у яго творах мае перавагу над логікай мастацкіх характараў. Празаік заўважыў, што ён і сам адчувае неабходнасць адысці ад канкрэтыкі і ў межах гістарычнай верагоднасці даць волю фантазіі.

НАШ КАР.



Мацнеюць шэфскія сувязі пісьменнікаў з воінамі. Рэгулярна адбываюцца сустрэчы літаратараў з армейскімі чытачамі, арганізоўваюцца творчыя вечары, паездкі ў воінскія часці. За плённую ваенна-шэфскую работу Саюз пісьменнікаў рэспублікі ўзнагароджаны пераходным Кубкам Ваеннага савета і Палітычнага ўпраўлення Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі. Узнагароду ўручыў старшыні праўлення СП БССР Максіму Танку і старшыні ваенна-шэфскай камісіі Саюза пісьменнікаў Леаніду Прокшу намеснік начальніка Палітупраўлення ЧБВА генерал-маёр А. Сульянаў.

Л. Прокша, А. Сульянаў, М. Танк.

Фота Ул. КРУКА

### ЗНАЁМСТВА З КУБІНСКАЙ ПАЭЗІЯЙ



«Тытунёвая кветка» — так называецца першая на Беларусі анталогія кубінскай паэзіі, выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура», якая засведчыла далейшае пашырэнне творчых гарызонтаў перакладчыкаў рэспублікі. Гэтай падзеі была прысвечана чарговая «Паэтычная пятніца» ў Доме літаратара.

Вядучы сустрэчы сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак адзначыў пленнасць перакладчыцкай дзейнасці аўтараў, якія данеслі да беларускага чытача шматфарбнасць паэзіі Вострава Свабоды. Творы кубінскіх аўтараў чыталі А. Вярцінскі, К. Шэрман, В. Зуёнак, артысты купалаўскага тэатра Г. Бальчэўская, А. Уладамірскі, У. Рагаўцоў. Актыўны ўдзел у вечары прынялі кубінскія студэнты, якія вучацца ў Мінску.

Вершы чытае Г. Бальчэўская.

Тэкст і фота Ул. КРУКА

### ВІНШУЕМ!

За заслугі ў развіцці тэатральнага мастацтва, вялікую работу па эстэтычным выхаванні насельніцтва і ў сувязі з 60-годдзем з дня стварэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Гэтай жа ўзнагародай адзначаны МАЗЫНСКІ Валерый Яўгенавіч, галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, і ПІСАРАВА Людміла Іванаўна, артыстка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, заслужаная артыстка БССР.

За заслугі ў развіцці тэатральнага мастацтва, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў артысту Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ТРУШКО Леаніду Ігнатавічу ганаровае званне заслужанага артыста Беларускай ССР.

## КАЛАСАВІНЫ: ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ...

Літаратурнае свята Каласавіны з нагоды дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, пачатак якому быў пакладзены летась па ініцыятыве супрацоўнікаў Літаратурнага музея песняра, набыло сёлета значна большы размах. Клопатам і стараннем землякоў Якуба Коласа з 29 кастрычніка па 4 лістапада на Стаўбцоўшчыне праводзіўся Тыдзень паэзіі «Мой родны кут...»

У дом-музей песняра ў Мінску 3 лістапада прыйшлі ўкраінскі перакладчык і літаратуразнавец С. Пінчук, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі рэспублікі. Прысутныя з цікавасцю слухалі госця з Кіева, які расказаў аб сваёй рабоце па перакладзе на ўкраінскую мову паэмы «Новая зямля». Артыст П. Тарасевіч прачытаў урывак з гэтага твора. Госць з Саратава, малады кампазітар і спявак Ю. Саховіч выканаў дзве свае песні на словы Якуба Коласа «Беларусам» і «Каля акна ў астрозе». Акампаніравала музыказнавец Т. Ліхач на раялі, які падараваў Якуб Колас сваім унукам. На пытанні гасцей адказаў сын паэта Д. Міцкевіч.

Пасля ўскладання кветак да помніка песняру на плошчы яго імя і на магілу Якуба Коласа ў Мінску ўдзельнікі Каласавін накіраваліся на Стаўбцоўшчыну. Слова пра Якуба Коласа каля помніка паэту ў Мікалаеўшчыне сказаў кандыдат гістарычных навук Л. Мірачыцкі.

У Акінчыцах урачыстасць адкрыў намеснік старшыні Стаўбцоўскага райвыканкома Д. Бычко. На ганку былой Акінчыцкай лясной каморы выступілі дырэктар Літаратурнага музея Якуба Коласа Г. Ткацэвіч, паэтэса В. Аколава, С. Пінчук, сын Якуба Коласа Д. Міцкевіч, перакладчык І. Чарота, мастакі А. Марачкін, У. Сулкоўскі, артыст П. Тарасевіч, студэнтка філфака Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна І. Тарасюк.

У праграме свята былі выстаўка-продаж арыгінальных вырабаў народных майстроў, кніжны кірмаш. Свае вырабы прапанавалі мінскі ганчар С. Шарапа і пляцельшчык А. Белановіч (вёска Шахноўшчына, Стаўбцоўскі раён). Гасцей парадаваў сваім выступленнем фальклорны калектыў «Каласаўніцы» з Мікалаеўшчыны.

Паездка ў родныя мясціны песняра адбылася напярэдадні навуковай канферэнцыі, якая 4 і 5 лістапада праходзіла ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа АН БССР і якую адкрыў дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР В. Каваленка. Слухачамі на канферэнцыі былі пераважна студэнты-філолагі Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага, БДУ імя У. І. Леніна і студэнты Мінскага педвучылішча № 2. У Каласавінах прынялі ўдзел вядомыя навукоўцы, а таксама маладыя даследчыкі. Было выказана шэраг цікавых і слушных прапаноў, у прыватнасці, пра ўшанаванне памяці Якуба Коласа на Палессі, пра тое, каб нашы органы друку, перш за ўсё літаратурныя перыядычныя выданні, увялі сталую рубрыку, дзе можна было б рэгулярна, сістэматычна друкаваць матэрыялы Коласавай спадчыны, пра выданне матэрыялаў Каласавін, якія могуць быць, гаварылася ў адным з выступленняў, асноўным грунтам энцыклапедычнага даведніка «Якуб Колас».

5 лістапада ў доме-музеі Якуба Коласа камерны хор Беларускай кансерваторыі выканаў адну частку з месы Нясвіжскай капэлы, якая існавала ў 1724—1809 гадах, а таксама кантату А. Навахроста «Усход сонца» на словы Якуба Коласа. Хормайстар Т. Слабодчыкава расказала ўдзельнікам Каласавін пра беларускую музыку XVIII ст.

Сёлетнія Каласавіны ўзышлі на новы віток. Хочацца, каб гэтае літаратурнае свята перарасло надалей у значную падзею беларускай культуры.

Генадзь ТУМАШ,
супрацоўнік музея
Якуба Коласа

---

Закончылася падпіска на часопісы і газеты. Так званы індывідуальны падпісчык яшчэ можа ўнесці некаторыя карэктывы ў статыстыку рэспубліканскага «Саюздруку», але не настолькі аб'ёмныя, каб агульны малюнак падпіскі наступнага года прыкметна змяніўся. Мяркуецца, што ў 1987 годзе чытачы рэспублікі атрымаюць па падпісцы больш за 15 мільёнаў адзінак перыядычных выданняў. Бо прыкладна такім быў узровень, дасягнуты ў бягучым годзе. «Дасягнуты ўзровень»— гэта тая выснова, на якой вядзецца падпісная кампанія, гэта своеасаблівая мера працы і намаганняў «Саюздруку», таксама росту ці застою нашых з вамі, чытач, культурных патрэб (у адносінах да перыёдыкі). Словы «дасягнуты ўзровень» я асмеліўся аздобіць двукоссем, бо, здаецца, гэта не зусім сённяшні тэрмін. Чаму — стане зразумелым з далейшага.

Паколькі падпіска датычыць усіх літаратурных выданняў, у тым ліку і нашай газеты, дык някепска будзе пацікавіцца, чаго мы «дасягнулі» сёлета.

Але, калі быць шчырымі, наша цікавасць да гэтай тэмы ўзнікла не зусім самастойна. Перадумовы яе стварылі два лісты ў рэдакцыю. Першым была невялічкая інфармацыя са Слуцка, у якой аўтар выказваў занепакоенасць тым, што «ЛіМ» і некаторыя іншыя беларускамоўныя выданні недастаткова выпісваюцца слуцкімі гарана і аддзелам культуры. Неўзабаве рэдакцыя атрымала другі ліст, падпісаны загадчыкам Слуцкага раённага аддзялення «Саюздруку». Кароткі адказ рашуча абвяргаў інфармацыю і завяршаўся пытаннем: як магла рэдакцыя апублікаваць факты, якія не адпавядаюць рэчаіснасці? Трохі, праўда, здзівіла, што слуцкія аддзел культуры і гарана не адгукнуліся ні словам, нібыта не чыталі, а словы нязгоды нарадзіліся ў «Саюздруку», якога інфармацыя, здаецца, ніяк не кранала. Але ўсё ж стала неяк нядобра, бо публікацыя недакладных звестак, безумоўна, не ўпрыгожвае газету. Тым больш, калі з гэтага вынікае беспадстаўная крыўда...

Вось з такім абмежаваным напачатку пытаннем — як падпісваецца Слуцкі гарана на «ЛіМ», «Полымя», «Маладосць»? паехаў я ў камандзіроўку.

Праглядваючы зводныя падпісныя карты на часопісы і газеты, асэнсоўваючы колькасныя суадносіны падпіскі ведамаснай і індывідуальнай, убачыў я, што за імі стаіць праблема, непараўнальна шырэйшая за акрэслены двума пісьмамі канфлікт. Некаторыя лічбы занатаваў, яны, на маю думку, вартыя чытацкай увагі.

У Слуцку жыве за 55 тысяч жыхароў і пад 70 тысяч складае насельніцтва слуцкай вёскі. Газеты «ЛіМ» Слуцкі раён атрымлівае па падпісцы 98 экземпляраў і яшчэ 12 паступаюць у розніцу. Разам — 110 адзінак, гэта значыць, па адным экземпляры на тысячу жыхароў. Зразумела, у сярэднім. Расшыфроўка агульнай лічбы мае наступны выгляд: бюджэтная падпіска па горадзе — 10 экземпляраў, па раёне — 68, індывідуальна падпісваюцца ў горадзе 10 чалавек, у раёне — таксама 10. Многа гэта ці мала? Усё пазнаецца ў параўнанні. Напрыклад, часопіс «Полымя» індывідуальна атрымліваюць у Слуцку 2 падпісчыкі, на вёсцы — 3, ведамасная падпіска па горадзе складае 14 экземпляраў, па вёсцы 66. Часопіса «Маладосць» на Случчыну прыходзіць 90 адзінак, у тым ліку індывідуальных падпісчыкаў на вёсцы 10 чалавек, у горадзе — 6. Так што стаўленне слуцкага чытача да «ЛіМа»

# „Дасягнуты ўзровень“

## ШТО ПАКАЗАЛА ПАДПІСКА!

можна лічыць больш становучым, чым да «Полымя». «Бюджэт» да ўсіх ставіцца роўна, хоць нельга не адзначыць такі нюанс — названыя часопісы і штотыднёвік лічацца «бюджэтам» як бы выданнямі вясковага прызначэння. Напрыклад, «Полымя» накіроўваецца на вёску 81 працэнт ад агульнай колькасці.

Лічбы маюць пэўную магічную сілу — пачнеш сачыць за іх логікай і ўжо цяжка ад іх адарвацца: за колькаснымі характарыстыкамі адчуваеш моцную стыхію чалавечых жаданняў і інтарэсаў. Хіба не цікава, што ілюстраваны часопіс «Беларусь» атрымліваюць у Слуцку індывідуальна 6 чалавек, на вёсцы — 3, «па бюджэце» горад выпісаў 20 адзінак «Беларусі», вёска — 77. Часопіса «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» Слуцкі раён па ведамаснай падпісцы атрымлівае 73 экземпляры, па індывідуальнай — 5. Часопіс «На экранах Беларусі» індывідуальна атрымліваюць 140 чалавек, часопіс «Мастацтва Беларусі» індывідуальных падпісчыкаў сярод случакоў не мае. Газету «Знамя юности» выпісваюць у раёне 8300 чалавек, газету «Чырвоная змена» — 400.

У сукупнасці жыхары Слуцкага раёна атрымліваюць больш за 145 тысяч экземпляраў газет і часопісаў. Ведамасная падпіска акрэсліваецца лічбай у 15200 адзінак. Інакш кажучы, каля 90 працэнтаў падпіскі прыпадае на індывідуальных падпісчыкаў. Няцяжка падлічыць, што падпіска на часопіс «Беларусь» па графе «індывідуальная» займае 7 тысячных працэнта, на «Полымя» — 4 тысячных, на «ЛіМ» — 15 сотых працэнта, на газету «Знамя юности» — каля 6 працэнтаў. І гэтак далей.

Натуючы слупкі лічбаў у свой журналісцкі блакнот, наважыўся я ўсё ж займець адказ на зыходнае пытанне: колькі экземпляраў «Маладосці» і «Полымя» выпісвае Слуцкі гарана для 12 школ горада? Бо цяжка ўявіць якаснае вывучэнне беларускай літаратуры, калі вучням нельга атрымаць уяўленне пра сучасны літаратурны працэс у рэспубліцы, пазнаёміцца з навейшымі набыткамі паэзіі і прозы, даведацца пра новыя імёны. Загадчык гарана М. М. Гладкі запрасіў такія звесткі ў бухгалтэрыі. Вось яны: на 1987 год 12 школ Слуцка атрымаюць 2 экземпляры «Маладосці» (адзін на шэсць школ), 3 экземпляры «Полымя» (адзін на чатыры школы) і ніводнага экземпляра «ЛіМа». Так што праўду напісаў нам слуцкі карэспандэнт Р. Родчанка. Калі ў наступным годзе Слуцкі гарана ад гэтага «дасягнутага ўзроўню» павялічыць падпіску нават на 200 працэнтаў, дык і тады беларускамоўныя літаратурныя часопісы і штотыднёвік усё адно не стануць прыналежнасцю кожнай школьнай бібліятэкі.

Не хацелася б, аднак, каб адказныя асобы з рэспубліканскага ці абласнога «Саюздруку» ўспрынялі гэтыя нататкі як крытыку слуцкага раённага аддзялення. Гэта будзе вялікая несправядлівасць, бо калектыў аддзялення працуе напружана і старанна, пра што сведчыць, напрыклад, абласны пераходны Чырвоны сцяг, які аддзяленне ўтрымлівае ўжо два кварталы запар. Наогул, Слуцкае аддзяленне «Саюздруку» адно з лепшых не толькі ў вобласці, але і ў рэспубліцы, бо ёсць раёны, дзе, скажам, не выпісваюць ніводнага экземпляра «Мастацтва Беларусі» як індывідуальныя падпісчыкі, так і «бюджэтныя» ўстановы (да прыкладу, Кобрынскі). Насельніцтва Гомеля перавышае 470 тысяч, гэта значыць, больш за слуцкае ў 8 разоў, а выпісваюць яны «Беларусі» 88, «ЛіМа» — 122 экземпляры, з чаго вынікае, што тут адзін экземпляр часопіса ці газеты прыходзіцца на 4-5 тысяч жыхароў. Часопіс «Мастацтва Беларусі» прыходзіцца ў Гродне на 8 тысяч, у Пінску — на 27 тысяч, Салігорску — на 22 тысячы насельніцтва. Можна бясконца доўжыць такія выкладкі, з якіх паўстае, што пэўныя выданні ў некаторых гарадах і раёнах можна смела лічыць бібліяграфічнай рэдкасцю. Праўда, ёсць выданні, падпіску на якія «Саюздруку» прыходзіцца стрымліваць. Напрыклад, самым вялікім попытам сярод індывідуальных падпісчыкаў карыстаецца газета «На страже Октября» (орган Міністэрства ўнутраных спраў БССР). На яе згаджаюцца падпісацца нават з нагрузкай». У гэтым, зразумела, няма заслугі «Саюздруку», як няма ягонай віны ў тым, што «Маладосцю» ці «Помнікамі гісторыі і культуры Беларусі» цікавяцца лічаныя калі не адзінкі, дык сотні. І справа тут, пэўна, не толькі ў тым, што «На страже Октября» з нумара ў нумар друкуе дэтэктыў, а «Мастацтва Беларусі» пакуль што такім чынам заваяваць чытача не асмелілася. Такі культурны феномен патрабуе асэнсавання, пакуль што не зробленага. Здаецца, што многія людзі і не ведаюць пра існаванне некаторых нашых выданняў. «Саюздрук» іх не рэкламуе, толькі кожная трэцяя ці чацвёртая школа знаёміць вучняў з такімі выданнямі, звычку да іх чытання ніхто не культывуе, у чырвоныя куткі фермаў і цэхаў іх не выпісваюць (пра гэту апошнюю заўвагу мы яшчэ скажам ніжэй). Дарэчы, немагчыма зразумець і той факт, калі раённым аддзяленнем Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры забаронена падпісвацца на «ЛіМ» і іншыя рэспубліканскія выданні, дзе змяшчаюцца матэрыялы краязнаўчага характару.

Наогул падпіска некаторых устаноў пакідае жадаць шмат лепшага. Многае тут ад праформы. Такое ўражанне, што такой падпіскай і падтрымліваецца «дасягнуты ўзровень». Але хто яе метадалагічна абгрунтоўвае?

Наогул, хто сёння здолее адказаць, колькі чалавек чытаюць падшыўкі ў сельскіх і гарадскіх бібліятэках, у чырвоных кутках інтэрнатаў? Можа, дзесяць, а можа, адзін, а можа, і зусім не кранае іх рука чалавека. Хто вызначыць, колькі патрэбна экземпляраў пэўнага часопіса гораду, вёсцы? Як лічыць кола зацікаўленых чытачоў — па індывідуальнай падпісцы ці па бюджэтнай? Які ККД бюджэтнай падпіскі? Магчыма, што 80 працэнтаў часопісаў і газет, якія аплачваюцца з бюджэта, наогул не знаходзяць чытача, і мы марна пераводзім і паперу і грошы.

Пакуль што мы не маем падстаў для аб'ектыўнай ацэнкі з'явы. Адзіны крытэрый, які практычна ўжываецца, — «дасягнуты ўзровень», які азначае, што па ніводным выданні падпіска не можа знізіцца ў параўнанні з мінулым годам. А калі паменшылася — дык гэта што, дрэнная праца «Саюздруку» ці непадначалены нам больш сур'ёзны працэс? Няма адказу, не заняліся яшчэ гэтымі пытаннямі нашы сацыёлагі.

Каб удакладніць свае назіранні і абапірацца не толькі на вопыт слуцкага «Саюздруку», паехаў я ў Нясвіж, які прывабіў мяне тым, апрача ўсяго іншага, што тут друкаваў свае кнігі наш славуты асветнік Сымон Будны. Менавіта тут існавала і адна з першых на тэрыторыі Беларусі друкарань. Так што культурныя традыцыі Нясвіжа даўнія, закладаліся стагоддзі назад. Прыгадалася яшчэ, што тут пачынаў сваю творчасць Якуб Колас, што таксама пэўным чынам павінна адбіцца на культурнай атмасферы...

І вось трымаю я ў руках зводку падпіскі па стану на 9 кастрычніка. Няхай чытач мне даруе, што зноў вымушаны прыводзіць лічбы, але цяжка перадаць словамі тое, пра што апавядае адзін знак. Часопіса «Беларусь» выпісаў раён 76 экземпляраў, у тым ліку ўстановы — 68 адзінак, індывідуальныя падпісчыкі на вёсцы — 5 адзінак, у горадзе — 3. На дзіцячы часопіс «Бярозка» індывідуальна падпісаліся на вёсцы 31 чалавек, у Нясвіжы — нуль. Часопіс «Полымя» ў Нясвіжы індывідуальных падпісчыкаў не мае, на вёсцы падпісаліся на яго 2 чалавекі, ведамасная падпіска — 36 экземпляраў. Газета «Літаратура і мастацтва» таксама мае двух падпісчыкаў на вёсцы, ніводнага ў Нясвіжы, бюджэтная падпіска — 64 экземпляры. На газету «Піянер Беларусі» падпісалася ў Нясвіжы 6 хлопчыкаў і дзяўчынак, на вёсцы — 335. Газету «Зорька» ў Нясвіжы будуць атрымліваць 430 хлопчыкаў і дзяўчынак, на вёсцы — 745. Рэспубліканская камсамольская газета «Чырвоная змена» на 9 кастрычніка індывідуальных падпісчыкаў у Нясвіжы не мела, на вёсцы — 11 чалавек. Па бюджэтнай падпісцы атрымае Нясвіжскі раён «Чырвонай змены» 59 адзінак. «Знамя юности» па індывідуальнай падпісцы атрымаюць 1320 чалавек.

Неабходна адзначыць, што прыведзеныя лічбы, пэўна, павялічыліся, бо яны адлюстроўваюць стан падпіскі на першую дэкаду кастрычніка, а закончылася падпіска першага лістапада. Можа, там, дзе быў нуль — зараз стаіць лічба «3», а замест адной тысячы стала дзве. Але ў агульных рысах тое, што тут названа, адпавядае «дасягнутаму ўзроўню» мінулага года. Ды і сама дынаміка падпіскі, яе рух да «ўзроўню» атрымлівае ў святле аператыўнай інфармацыі большую яснасць.

Гартаючы бланкі заказаў, звярнуў я ўвагу, што некаторыя калектывы набываюць перыёдыку на вялікія грошы — больш за тысячу рублёў. Аказалася, што не шкадуюць грошай на падпіску ў першую чаргу калгасы. Пэўна, і чытачу будзе цікава, што атрымаюць з рэспубліканскіх выданняў калгаснікі, напрыклад, калгаса «Семнаццатае верасня». Атрымаюць яны наступнае: «Звязда» — 16 экземпляраў, «Чырвоны сцяг» — 16, «Мінская праўда» — 3 экземпляры, «Советская Белоруссия», «Коммунист Белоруссии», «Вожык», «Сельское строительство Белоруссии» — па 1 экземпляры. Агульны кошт гэтага — 227 рублёў. Яшчэ 800 рублёў калгасу каштавала цэнтральная перыёдыка палітычнага і спецыяльнага характару. І вось цяжка зразумець, чаму з гэтай калгаснай тысячы не вылучылі хоць бы дваццатую частку на выданні літаратурнага і культурнага накірункаў? Хіба пашкодзіла б мець у чырвоным кутку сучаснай фермы падшыўку «Беларусі» ці «Помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», каб людзі ў хвіліну адпачынку маглі пазнаёміцца не толькі з газетнымі навінамі? Што перашкаджае? Няўжо ўсё той жа «дасягнуты ўзровень»?

Але не будзем гадаць і кідацца ў паспешлівыя інтэрпрэтацыі. Патрэбна аб'ектыўнае, дакладнае даследаванне шматлікіх аспектаў падпіскі. Наспеў час прааналізаваць, чым выклікана дзіўная розніца ў тыражах «Чырвонай змены» і «Знамени юности», «Піянера Беларусі» і «Зорьки», «Маладосці» і «Немана». Што тоіцца за гэтай розніцай — непараўнальная якасць журналісцкай працы ў рэдакцыях, ці памылкі рэкламы, ці нейкія іншыя незалежныя ад нашай волі з'явы? Відаць, патрабуе зацікаўленага аналізу і бюджэтная падпіска. Калі ўжо існуе права падпісвацца за кошт бюджэту, дык трэба грунтоўна ўдакладніць спіс выданняў, якія трэба набываць той ці іншай установе за народныя грошы. Тут, бясспрэчна, ёсць аб чым падумаць рэспубліканскаму «Саюздруку» і міністэрствам, якія ажыццяўляюць адукацыйную і культурную палітыку.

Бюджэтную падпіску, вядома, нельга лічыць панацэяй ад хваробы малых тыражоў. Вышэй адзначалася, што доля «бюджэту» ў падпісцы складае прыблізна 10 працэнтаў. Такім чынам, дзевяць з кожных дзесяці часопісаў і газет павінны мець зацікаўленага «індывідуальнага» пакупніка. Аднак прыходзіцца з жалем канстатаваць адваротнае. Па стану падпіскі на 20 кастрычніка часопісу «Маладосць» не хапала да «дасягнутага ўзроўню» 2100 індывідуальных падпісак, газеце «Літаратура і мастацтва» — 1250. Тлумачыцца гэта, на наш сорам, адназначна: не толькі «просты» чытач, але і наша інтэлігенцыя не спяшаецца падпісацца на рэспубліканскія літаратурныя і культурныя выданні. Нават у лепшым выпадку, калі мы даможамся «дасягнутага ўзроўню», у Мінску адзін экземпляр «ЛіМа» прыйдзецца на 1500 жыхароў (у Слуцку, як памятаем, на 1000). Гэта бянтэжыць вельмі, калі ўлічыць мінскую канцэнтрацыю творчай інтэлігенцыі, выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў. Як гэта асэнсаваць, дзе выйсце з гэтага зачараванага кола — усе мы пакуль што не надта думалі, публічна і ў кулуарах сур'ёзна пра гэтыя хвалюючыя пытанні не гаварылі...

Ёсць і яшчэ шэраг нявырашаных пытанняў, якія не спрыяюць якаснай падпісцы. Гэта і неабходнасць выдання на беларускай мове спецыялізаваных газет, часопісаў і бюлетэняў для шырокіх прафесій — вадзіцеляў, будаўнікоў, калгаснікаў і г. д. Гэта і пытанне аб растэрміноўцы плацяжу па падпісцы хоць бы на трохмесячны тэрмін, бо індывідуальнаму падпісчыку выкласці адным разам 50—60 рублёў, як гэта пастаўлена сёння, задача не з простых. Было б зручней і людзям, і «Саюздруку», каб бухгалтэрыя па месцы працы падпісчыка пералічвала на банкаўскі рахунак «Саюздруку» кошт падпіскі ў тры прыёмы. Гэта і пытанне больш шырокай рэкламы, і пытанне грунтоўнага задавальнення рэспубліканскай перыёдыкай патрэб школы, і праблемы ўзаемазалежнасці падпіскі і ўжывання беларускай мовы.

Гэта, нарэшце, і самая галоўная праблема—перабудова нашага, супрацоўнікаў друкаваных выданняў, мыслення, зварот да хвалюючых тэм, да шчырай размовы пра сённяшняе жыццё — каб чытач сам шукаў выданне. Тады, можа, і не будзе адгукацца нам болем наш «дасягнуты» бюджэтнай падтрымкай «узровень».

**Кастусь ТАРАСАЎ,**
**спецыяльны карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».**

□

**P. S. Калі гэты матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, рэдакцыя атрымала пісьмо ад вучняў, якое пацвярджае і наглядна ілюструе ўзнятую праблему. Вось што, у прыватнасці, пішуць школьнікі:**

**«Школа ў нас беларускамоўная і з'яўляецца другім родным домам больш як чатыромстам вучням. Аднак год за годам школьную бібліятэку абмінаюць газеты і часопісы на беларускай мове (акрамя «раёнкі» і «Настаўніцкай газеты»). На 1987 год зноў былі выкраслены амаль усе беларускія выданні. Удалося ўпершыню аформіць на бібліятэку толькі «Маладосць» і «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Таму наш дзесяты клас выпісаў сёлета на сабраныя паміж сабой грошы наступныя выданні: «Звязду», «Чырвоную змену», «Літаратуру і мастацтва», «Беларусь», «Полымя», «Бярозку», «Вясёлку», «Піянер Беларусі», «Родную прыроду». Мы самі будзем весці падшыўку гэтых газет і часопісаў для школьнага вучнёўскага калектыву. Скажыце, якое з гэтых выданняў лішняе ў школе? А многа год не было і ніводнага! Няма пакуль і цяпер, бо да новага года яшчэ далёка...**

**Як бачыце, у 1987 годзе школа нарэшце будзе чытаць беларускамоўную перыёдыку. Аднак што прымушае ісці гэткім шляхам. Нас хвалюе сама праблема. Чаму ўвогуле школьная бібліятэка не арыентуецца на патрэбы вучня? Дзе ж нашы выданні для моладзі, дзе літаратурна-мастацкая перыёдыка? І чаму мы павінны, нарэшце, дабівацца таго, што па праву нам належыць — рэспубліканскіх часопісаў і газет у школу? Хто нам адкажа?**

**М. ВАУЧОК, С. ГІДНЕУСКАЯ, Н. МАНТЫЦКАЯ,**
**А. ЛОЙКА і іншыя — дзесяцікласнікі Праўдзінскай СШ Мінскага раёна».**

# Бацькоўскі ДОМ

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ

**У «ЛіМе» за 10 і 17 кастрычніка г. г. былі надрукаваны публіцыстычныя нататкі-інтэрв'ю Святланы Алексіевіч «Я паехаў з вёскі...», у якіх аўтар даследаваў некаторыя аспекты міграцыі ў горад сельскага насельніцтва, праблемы адаптацыі ўчарашніх вяскоўцаў да гарадскога жыцця.**

**У прадмове Алеся Адамовіча да гэтых нататак, у прыватнасці, было пастаўлена пытанне: «Дарэчы сказаць: як было б цікава і патрэбна як — запісаць і тых, хто застаўся ў вёсцы...»**

**Святлана Алексіевіч якраз узялася і за такую задачу — паказаць тых, хто вырашыў звязаць свой лёс з роднай вёскай, зямлёй, на якой працавалі іх бацькі і дзяды.**



**Калі я запісала дзесяткі расказаў-споведзяў тых, што паехалі з вёскі, узнікла адчуванне, што ў нашай гаворцы не хапае яшчэ аднаго погляду. Якога? А погляду адтуль, з вёскі. Што ж думаюць тыя, што засталіся на сваёй зямлі, у бацькоўскай хаце, засталіся насуперак зманлівым павевам моды, а часам нават насуперак волі бацькоў? Што яны могуць сказаць? Адказаць?**

**Дала прачытаць ужо напісанае першаму сакратару Любанскага райкома партыі Валерыю Пятровічу Харытановічу, з якім мы даўно знаёмы і меркаванне якога мне было цікава пачуць, бо чалавек ён удумлівы, заўсёды аналізуе любую сітуацыю, а да ўсяго, як сялянскі сын, улюбёны ў родную зямлю, у родную мову (больш ні ў аднаго сакратара райкома не бачыла такой хатняй бібліятэкі беларускай літаратуры, як у яго). У Мінску прачытаць рукапіс ён не паспеў, вярнуў праз месяц па пошце з прыпіскай: «Мне нельга было гэта проста прачытаць, сядзеў, думаў над кожным чалавечым лёсам, сведчаннем чаго — мноства клічнікаў і пытальнікаў на палях рукапісу. Гэта не літаратурныя героі, аб поглядах, учынках якіх можна паспрачацца, тут рэальныя людзі і за імі стаяць рэальныя праблемы. З «вашымі героямі» я таксама сустракаюся часта. Але яшчэ часцей страчаюся я з тымі, што засталіся ў роднай вёсцы, не здрадзілі ёй і не толькі хочуць і мараць бачыць яе новай і падказваюць нам, якой ёй быць, вёсцы будучых дзён, а самі яе перабудоўваюць. Чаму вы абышлі іх сваёй увагай! А як цікава было б прачытаць інтэрв'ю тых, што вярнуліся з горада назад у вёску. У нас ёсць такія. Адным словам, хачу прапанаваць — прыязджайце да нас...»**

**І я выправілася ў новую камандзіроўку з іншай мэтай і іншымі пытаннямі. У выніку павяліся вось гэтыя інтэрв'ю.**

Мікалай **Цецярук**, трактарыст, 28 гадоў:

— Бацька мой трактарыст. Усіх дзяцей у нашай сям'і чацвёра. Дзве сястры і брат паехалі ў горад, а я застаўся.

Бацькі на мяне трохі сердавалі. Яны не хацелі, каб я дома заставаўся. Чаму? Усе едуць у горад. З маіх аднагодкаў, можа, толькі двое ці трое дома засталіся. *Можам палічыць*: адна кароў доіць, адзін на трактары робіць... другі некуды на будоўлю паехаў. Значыць, усяго двое з нашага класа нікуды не паехалі. А я хацеў на трактар і ў сваім калгасе рабіць. Дома ўсё сваё, звычнае. Усе цябе ведаюць. Адным словам — бацькоўскі дом...

**— Часта сустракаецеся са сваімі аднакласнікамі!**

— Няма такога выхаднога, каб хто-небудзь з іх не прыехаў. Ад нас усяго сто кіламетраў да Мінска, блізка, тры гадзіны на аўтобусе.

**— Ну і што яны расказваюць!**

— Кажуць: дурны, што застаўся, у горадзе лягчэй рабіў бы. А я смяюся з іх: калі ў горадзе так добра, чаго ж вы тады кожны выхадны дадому з сумкамі ездзіце? Прывязе кіло пернікаў, а назад сала вязе. І чаго яны ўсе ў адзін голас: «У горад! У горад!»? У нас такія мясціны прыгожыя, лес, грыбы. Праца, вядома, цяжкая, а ў горадзе хіба лягчэйшая? Ён там на той жа трактар сядзе, толькі ў яго, само сабой, графік, а ў нас як жніво, дык ад цямна да цямна ў полі. Хапала б трактарыстаў, дык такога не было б, пасадзілі б па два чалавекі на кожны трактар — адзін у адну змену, другі — у другую. Механізатарам плацяць добра. Мяне сёлета пуцёўкай у Балгарыю ўзнагародзілі. Павага ёсць... Дом пачаў ставіць. Лес прывёз, дошак нарэзаў — да восені зруб падымем.

**— Хіба калгас не будуе дамоў для спецыялістаў!**

— Мала. А хочацца хутчэй. І свой дом — гэта сад. Сад пасаджу.

**— Дзе працуе ваша жонка!**

— Акушэркай у бальніцы.

**— Яна з вашай вёскі!**

— Не, з суседняй. Сюды яе прывёз. Будзем тут жыць... Я ж вам кажу: бацькоўскі дом... «Мілы кут маіх дзядоў»... Самае дарагое месца на зямлі...

Уладзімір **Ліпень**, шафёр, 19 гадоў:

— Я толькі да арміі з бацькамі застаўся. А там буду думаць... Часовы, можна сказаць, чалавек у вёсцы. Хлопцы ў горад клічуць... Можа, куды-небудзь пасля арміі завярбуюся, хачу свет паглядзець, а то жывеш, хутка дваццаць, а нідзе, акрамя сваёй вёскі і райцэнтра, не быў.

**— А што вабіць у горад!**

— Я яшчэ не ведаю, як там, у горадзе, але хто ні прыедзе, усе хваляць гарадское жыццё. Там дзяўчат шмат, а ў нас у вёсцы толькі дзве засталіся. Самыя прыгожыя ў горад паехалі. І свае яны, прывычныя, прымільгаліся...

Васіль **Хорсун**, брыгадзір, 25 гадоў:

— Скончыў школу, вырашыў застацца ў сваім саўгасе. Тут бацькі мае працуюць. Усё сваё, роднае, знаёмае. Гэта прываблівае. Усё-такі, як ні кажыце, а родныя мясціны ёсць родныя мясціны. А самае галоўнае, мусіць, тое, што бацькі не былі настроены, каб я куды ехаў. Брат і сястра старэйшыя таксама ў вёсцы засталіся. Традыцыя ў нас у сям'і такая. Я ў арміі шафёрам быў. Шмат дзе паездзіў. Але дзе б ні быў, а сваё наседжанае гняздо кліча...

**— Работай задаволены!**

— Цяжка даводзіцца, таму што ў тэхнікуме завочна вучуся. Але работу сваю люблю, асабліва калі ўсё добра расце. Жыта расце... Лён добры... Сам, гледзячы на ўсё, расцеш.

**— Пра горад не думаеце!**

— Не, ніколі не думаў, каб вось узяць ды паехаць. Не было такой думкі, хоць гаспадарка ў нас сярэдняя, нічым не адметная. Але свая зямля... Я паляванне люблю. Вось скора на качак сезон пачнецца. А такое хіба знойдзеш у горадзе?

**— А жонка як!**

— Раней гаварыла, каб куды-небудзь паехаць. А цяпер... Дзеці ў нас, трое. Жывём у сваім доме з бацькамі. Усё трымаем, а як жа. У вёсцы ды з пустым хлявом — людзі засмяюць...

Вольга **Баледа**, даярка, 23 гады:

— Шчыра сказаць, дык я спачатку ў горад хацела. Такі настрой быў, бо ўсе дзяўчаты паехалі, я толькі засталася. А потым адна ў канторы ўладкавалася, другая ў інстытут не паступіла, таксама дадому вярнулася. Ужо нас трое, весялей. Я самая малодшая ў сям'і. Ёсць дзве старэйшыя сястры, абедзве ў горадзе. А ў нас мама хворая, трэба, каб хто ля яе быў. Старэйшыя сёстры замуж павыходзілі, прыязджаюць толькі на святы. За мной больш нікога. На каго маму кінеш? Праз два тыдні, як я школу скончыла, прыйшоў у хату старшыня: «Даярку шукаюць, можа, *ваша Вольга згадзілася б?*» Я плачу, не хачу, а яны з мамай угаворваюць мяне: «Заробак добры, апранешся...» А я думала, можа, у бібліятэцы ці ў канторы месца знайду. І баялася, што дзяўчаты засмяюць. Яны гарадскімі сталі, а я ў кароўніку ў гумовіках.

**— І цяпер шкадуеце, што пайшлі на ферму!**

— Цяпер прывыкла, праганяць станут з фермы — назад папрашуся. Карова целіцца, я ноч не сплю, сяджу. Я *і малое цялятка, што родзіцца*, шкадую, як малое дзіця... Раней тым, што паехалі ў горад, зайздросціла. А цяпер у мяне сямейка, двое дзетак. Сёння ў вёсцы жывуць не бядней, чым у горадзе. Грошы ў людзей ёсць, купляюць машыны, добрую мэблю... Як у горадзе...

Ларыса **Чабанюк**, урач, 26 гадоў:

— У Мінску ўрачоў дзесяткі, сотні, а тут я адна на цэлы сельсавет — пяць вёсак. Я ведаю, *што калі з'еду адсюль*, дык няскора знойдуць чалавека на маё месца, раён толькі напалову ўкамплектаваны медыцынскімі кадрамі, асабліва ўрачоў не хапае. Што мяне трымае? Абавязак трымае. Што будзе, калі ўсе ў горад паедуць? Працаваць, вядома, цяжка, асабліва як мне, маладому ўрачу. Выпадкі бываюць розныя. Такія складаныя траўмы здараюцца. І тут не горад, дзе падняў трубку і пракансультаваўся з кім-небудзь са старэйшых калег, трэба, дык і *прафесара паклікаў*. Тут самастойна вырашаеш. Ведалі б вы, як я спачатку баялася, колькі перажывала. Але чым больш адказнасці, тым хутчэй расцеш як спецыяліст. У гэтым я пераканалася. За два гады, што працую пасля інстытута, я толькі ў вёсцы магла набыць такі вопыт, які ў мяне цяпер. Нічога ўжо не баюся, а ў першыя месяцы вяду прыём і зазіраю ў даведнік праз кожныя паўгадзіны. Яшчэ на адно звярніце ўвагу. Урач у вёсцы і ўрач у горадзе — не адно і тое ж. У вёсцы цябе ведае кожны ад старога да малога. Ты тут галоўны чалавек. І вось гэты аўтарытэт вельмі трымае. Сяброўка (яна ў горадзе ўладкавалася) піша мне: «Ты крыўдуеш, што ніяк не выберуся да цябе на выхадны. Няўжо забылася, як хутка ляціць у горадзе час, колькі нерваў забіраюць адны ранішнія і вячэрнія аўтобусы, пакуль дабярэшся на работу і пакуль вернешся дадому. Я здзіўляюся, як ты там паспяваеш за ўсімі часопісамі сачыць. *У мяне не атрымліваецца...*» А тут, у вёсцы, мне за год ніхто ніводнага гузіка не адарве. Хай яна мне зайздросціць, а не я ёй...

Мікалай **Кукрыш**, заатэхнік, 25 гадоў:

— Ехаў аднойчы ў цягніку, расказваю мужчынам: «Люблю вёску...» Яны не паверылі: «Не тлумі галавы! Не ўдалося ўцячы адтуль, вось і прыдумваеш цяпер любоў, каб апраўдацца. У вас работа ад цямна да цямна, хіба можна вёску любіць?..» А я *люблю. Люблю вясной*, калі зямля дыхае, птушкі спяваюць... Любой парою года люблю... Я паляўнічы, я зімой за зайцам трыццаць кіламетраў за дзень прайду... А галоўнае — бацькі павінны падаць прыклад. Яны вінаваты. Укладваюць у вушы з дзяцінства: «Паедзеш у горад... У горад...» Калі на заводзе бацька працуе, ён сыну: «На завод, сынок, ідзі, на завод...» Па тэлевізары пра дынастыі рабочых гавораць. А з калгаса выпіхваюць сваіх дзяцей: «Едзь, там лягчэй... Там будзеш *па* графіку, а тут без выхадных...» Такая ў нас работа, ад прыроды залежым. Ніколі тых графікаў не будзе. Смяяліся тыя хлопцы, што ў поездзе: «Калупайся з гноем...» А што? Трэба і гной камусьці вазіць у поле...

**— Весела ў вас у вёсцы!**

— У нас такі Палац культуры, якога ў горадзе не знойдзеш. З райцэнтра моладзь да нас на танцы, на канцэрты прыязджае. Паветра чыстае... Кватэры будуюць... Што яшчэ трэба? Неўзабаве машыну куплю. Захачу на выхадныя ў горад — сеў і паехаў. У мяне там тры браты і сястра жывуць.

**Пяцёра дзяцей вырасла ў адной хаце. Чацвёра паехалі ў горад, адзін застаўся з бацькамі. Можа, так яно і павінна быць сёння!**

Ларыса **Амельяновіч**, даярка, 23 гады:

— Пасля васьмі класаў я, як і ўсе, у горад паехала. У Баранавічы. Працавала на тэкстыльным камбінаце. Парабіла крыху і пішу бацькам, што вярнуся, не магу, што дома лепш. Нешта хутка я назад прыехала, і году не прайшло. Усё там не маё, і людзей шмат, чэргі. У вёсцы прасторы больш, вальней. Вясной сад цвіце... Восенню яблыкі чырванабокія... А там нічога не бачыш, і вясна і восень прайшлі аднолькава, неўпрыкмет. Праца таксама была не па мне. У мяне ад нітак, калі яны цэлы дзень перад вачамі, галава кругам ішла. Хацелася дадому страшэнна...

Ірына **Хамянок**, кандытар, 22 гады:

— Я па накіраванні прыехала. У той вёсцы, дзе жывуць бацькі мае, слабы калгас, туды я не захацела. Там клуб стары, моладзі няма, а тут Палац культуры (не ў кожным горадзе такі ёсць!), артысты прыязджаюць з Мінска, з Масквы, кожны месяц хто-небудзь выступае, асабліва часта зімой. Гандлёвы цэнтр, рэстаран, сталовая, нават пральня — усё пабудавана. Мне тут падабаецца. Моладзі шмат, сорак камсамольцаў у калгаснай камсамольскай арганізацыі. Праводзім «агеньчыкі», дыспуты, кожную суботу і нядзелю — вечар танцаў. Я вясковы чалавек, па натуры, мне трэба, каб летам у ягады пайсці, восенню — у грыбы... Люблю сена грэбці... Люблю сваю работу. *Вы не думайце, што мы тут*, у вёсцы, толькі адны булкі ў печ ставім. Пячом торты, піроржныя. У нас вялікі асартымент, як у гарадской пякарні. Тут нават цікавей, я лічу, працаваць, таму што ўсіх ведаеш, каму пячэш. І яны цябе ведаюць. Я ўчора каравай на вяселле пякла. Дык сёння ў сяле гавораць: «Які прыгожы каравай Іра спякла! Трэба заўсёды да яе ісці!» Хіба не прыемна? Абы з рук — тут не зробіш. Стараешся, як толькі можаш. На вачах ты...

Аркадзь **Кавалевіч**, электрык, 24 гады:

— Што вы хочаце пачуць?

**— Хто з вашага класа застаўся ў вёсцы!**

— Нікога. Адзін я.

**— Чаму вы не паехалі ў горад!**

— Чаго я там не бачыў? Быў я ў горадзе, да сястры два разы ездзіў. Не спадабалася.

(Заканчэнне на стар. 13)

## КНІГАПІС



А. ГРАЧАНІКАЎ. Палескі трохкутнік. Вершы. Пераклад з беларускай. М., «Молодая гвардия», 1986.

**Мужнасць беларускага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і вернасць моладзі традыцыям папярэднікаў, прыгажосць бацькоўскай зямлі і шчырасць чалавечых пачуццяў — асноўныя тэмы зборніка вершаў А. Грачанікава «Палескі трохкутнік». Творы на рускую мову пераклалі В. Казакевіч, І. Бурсаў, Д. Кавалёў, М. Бяляеў.**




*Дзяўчынка з блакітным мячыкам*

Г. ПАШКОЎ. Дзяўчынка з блакітным мячыкам. Кніга паэзіі. Для старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1986.

**У першы раздзел «Жаваранак трывогі» ўвайшлі вершы, якія з'явіліся пасля паездак паэта па краіне — Сібір, Сярэдняя Азія, камсамольскія будоўлі, а таксама творы, у якіх лірычны герой выказвае свае адносіны да людзей, што жывуць з ім побач.**

**Змест другога раздзела склала паэма «Дзяўчынка з блакітным мячыкам» — вынік паездкі Г. Пашкова ў Італію. У творы гучыць трывожны роздум аб нашым неспакойным часе, гаворыцца аб неабходнасці змагацца за мір.**



Максім ТАНК. Касмічнае падарожжа мураша Бадзіні. На арабскай мове. Мінск, «Юнацтва», 1986.

**Выдавецтва «Юнацтва» выпускае кнігі на чатырнаццаці мовах народаў свету. Нядаўна арабскія дзеці атрымалі магчымасць пазнаёміцца з казкай Максіма Танка «Касмічнае падарожжа мураша Бадзіні», якая перад гэтым выходзіла ў перакладзе на рускую і англійскую мовы.**

КРЫТЫКА
БІБЛІЯГРАФІЯ

# ВЯРТАННЕ ДАВЕРУ

Галіна ТЫЧКО

СЛОВЫ «перамена» і «перабудова» сёння трывала ўвайшлі ў наша жыццё і нашу свядомасць. І адной з важных прыкмет гэтых перамен з'яўляецца той факт, што «сённяшнія працэсы нельга падганяць пад старыя формулы, — як гаварыў М. С. Гарбачоў. — Пошук ісціны павінен ісці праз супастаўленне розных пунктаў погляду, дыскусіі і абмеркаванне, ломку былых стэрэатыпаў». Пераадоленне былых стэрэатыпаў — гэта надзённая задача не толькі сферы эканамічнай, матэрыяльнай, гэта актуальная патрэба сферы духоўнай.

У мастацтве і мастацкай літаратуры гэтае патрабаванне ў першую чаргу тычыцца не так саміх творцаў, як тых людзей, у рукі якіх трапляе мастацкі твор з творчай лабараторыі пісьменніка.

Каб вымаўленае пісьменнікам слова разумелася ў час і так як трэба, залежыць не толькі ад крытыкаў, супрацоўнікаў выдавецтваў і рэдакцый, але ў пэўнай ступені і ад таго, ці здольны самастойна мысліць і ацэньваць складаныя з'явы грамадскага жыцця сучасны чытач. І незалежна ад таго, як пісьменнік адносіцца да чытача, ён не можа не ўлічваць яго волю, яго жаданні, яго разуменне прыгожага. А калі свядомасць чытача знаходзіцца ў палоне стандартаў і стэрэатыпаў, ці не трапіць і пісьменнік незаўважна для сябе ў гэта сіло?

Таму, калі мы гаворым пра перабудову ў галіне прыгожага пісьменства, думаецца, што без пераадолення стэрэатыпаў і стандартаў у свядомасці чытача нам абысціся немагчыма. Паскорыць і актывізаваць гэты працэс, напэўна, задача крытыкі і літаратуразнаўства, паколькі крытык і літаратуразнаўца таксама чытачы, але чытачы дасведчаныя, самі далучаныя да таямніцы творчасці.

Аб тым, што наш век — век стандартаў, сёння гаворыцца ўсюды, ад гэтага нікуды не дзенешся. Ад стандартнага адзення, ад стандартнага жылля і стылю жыцця незаўважна для сябе мы трапляем у палон стандартнага мыслення. Менавіта пасіўнасцю нашага мыслення, няўменнем, а, можа, нежаданнем даваць самастойную ацэнку складаным грамадскім і сацыяльным з'явам сучаснасці тлумачыцца наш недаверлівы, скептычны падыход да ўсяго, што хоць нейкім чынам выбіваецца з прывычнага рэчышча, руйнуе нашы ўстойлівыя ўяўленні.

Толькі наяўнасцю ў нашай чытацкай свядомасці ўстойлівых стэрэатыпаў можна растлумачыць супярэчлівыя адносіны да першага зборніка Г. Булыкі, які выклікаў такія супроцьлеглыя ацэнкі толькі па той прычыне, што быў непадобны на першыя зборнікі іншых маладых паэтаў. Толькі абачлівасцю і страхам не пераступіць зацверджаныя межы тлумачыцца і пастскрыптум ад рэдакцыі да агляднага артыкула аб сучаснай прозе А. Сідарэвіча («Маладосць», № 3,1986). Ніякіх звышсенсацыйных меркаванняў, акрамя, можа, больш крытычнага, чым дазваляецца звычайна, падыходу, у артыкуле няма, але рэдакцыя палічыла неабходным дадаць ад сябе, што не цалкам падзяляе думкі крытыка. Якія думкі і чаму—невядома. Цяжка ўявіць, што было б, калі б заўсёды і ва ўсім рэдакцыя падзяляла думкі сваіх аўтараў! Гэта было б магчыма, калі б людзі адмовіліся мець асабістую думку, уласнае меркаванне. На шчасце, гэтага пакуль што няма. Але затое як часта ў нашым жыцці можна назіраць жаданне адпрэчыцца, на ўсялякі выпадак, каб «якнебудзь чаго не выйшла», па формуле такога жывучага ў душы кожнага з нас чэхаўскага Белікава.

Так, у кожнага з нас свой футарал, у кожнага з нас у душы ціхенька стаіўшыся сядзіць свой Белікаў, але ж давайце, хоць там, дзе гэта магчыма, патроху прывучаць сябе да свежага ветру перамен, давайце змагацца ў першую чаргу са сваім Белікавым, таму што без перамогі над ім ніякай перабудовы быць не можа.

Час патрабуе ад нас гранічнай праўдзівасці і шчырасці. І менавіта часам і грамадскай атмасферай прадыктаваны былі такія балючыя і сумленныя словы з новага рамана В. Казько «Сад, альбо Заблытаны след рамана»: «Я ж не адчуваю радасці ад таго, што зроблена, напісана. Значыць, недзе фальшывіўлю? Я імкнуся зразумець, адкуль гэты фальш, узнік сёння, ці цягнецца за мной здаўна, а мо гэта знайшла мяне будучыня мая? Слова не маніць, маняць словам. І самая страшная мана — мана шчырая, з якой ты ўжо звыкся, у якую ўжо сам верыш!». Ці не самая надзённая задача ўсіх нас, а ў першую чаргу мастацкай літаратуры, пазбавіцца гэтай шчырай маны, «з якой ты ўжо звыкся, у якую ўжо сам верыш?»

Гаворка пра новы раман В. Казько ўжо вялася ў друку («ЛіМ», 17 кастрычніка г. г.) і, думаецца, што яна будзе працягвацца, таму што гэты раман, як гаварыў Н. Гілевіч, «працаваў на падрыхтоўку перамен». Але не толькі на «падрыхтоўку», гэты твор адлюстраваў і тыя складаныя працэсы, якія адбываюцца ў нашай свядомасці зараз, сягоння. Ужо сама кампазіцыйная і тэматычная структура рамана нейкім чынам парушае нашы стэрэатыпы, нашы ўяўленні аб стане і тэндэнцыях сучаснай беларускай прозы. Тыя досыць устойлівыя і распаўсюджаныя азначэнні, як «вясковая» і «гарадская», «міфалагізаваная» і «інтэлектуальная», былі добрымі, але да часу, да пэўнай мяжы. Вышукваючы інтэлектуальнасць, гарадскую ці вясковую тэматыку, мы больш звярталі ўвагу на тое, чаго няма, і менш — на тое, што маем. Як, зыходзячы з гэтых фармальных, стэрэатыпных азначэнняў, ацэньваць творчасць М. Гарэцкага, Я. Брыля, І. Чыгрынава, І. Пташнікава, пісьменнікаў самабытных і глыбокіх? У якую шуфляду і з якім надпісам палажыць новы твор В. Казько? Тут жа ёсць і традыцыйная вёска, і сцэны з гарадскога жыцця, і міфалагічна-прытчавы пачатак навідавоку!

Ці не пара ўжо нам адмовіцца ад гэтай штучнай класіфікацыі, якая толькі спрошчвае і абмяжоўвае тэматычную і стылявую разнастайнасць нашай прозы і дэзарыентуе чытача? Безумоўна, пры жаданні «Сад...» можна было б уціснуць у рамкі міфалагічна-прытчавай, складанай прозы, правесці паралелі з творчасцю Г. Маркеса, Ч. Айтматава, А. Чыладзе. Але ці патрэбна гэта? Раман В. Казько — з'ява глыбока самабытная і нацыянальная. І патрабуе ацэнкі ў першую чаргу на фоне нацыянальнай гісторыі, традыцый і псіхалогіі.

«Сад...» захапляе не толькі аўтарскім імкненнем асэнсаваць час і свет у іх зменлівым, але бясконцым, глабальным маштабе. Сноўдала-зубр, Барталамеус Шпаковіч, апошні яцвяг паміраюць у сівой даўніне, але адраджаецца зубр, а разам з ім і Барталамеус і апошні яцвяг адраджаюцца таксама, адраджаюцца, каб потым зноў, у XX стагоддзі, на нашых вачах яшчэ раз памерці. Зрэшты, Барталамеус, здаецца, ніколі не паміраў. Як пачало сачыць за Сноўдалам са старажытных часоў яго хцівае вока, так яно і суправаджае яго да самай апошняй (у бясконцым ланцугу апошніх) хвіліны. Але адвечны ланцуг не можа парвацца назаўсёды. І як знішчаная дашчэнту, забудаваная сучаснымі шматпавярховымі дамамі, залітая асфальтам і запоўненая аўтамабілямі прадаўжае жыць і весці за сабой Сноўдалу-зубра адвечная дарога зуброў, так прадаўжае жыць і дарога памяці чалавечай. І таму верыцца, што адроджаныя з небыцця Сноўдала-зубр і апошні яцвяг не могуць памерці назаўсёды, яны абавязкова адродзяцца.

На гэтым фоне вечнасці і бясконцасці існавання пазначана канкрэтнае месца сучаснасці, вызначаны дакладныя каардынаты героя, жывога, з усім трагізмам і супярэчлівасцю яго надзённага існавання. Аднак не Мар'ян Знавец гэты герой, хоць вобраз Мар'яна і займае цэнтральнае месца ў творы. У чорным калідоры вечнасці і памяці знікае Мар'ян Знавец. І не яму, і не яго нашчадкам адсаджваць новы сад і адбудоўваць новую хату. Гэта рабіць нашчадкам Місцюка. Так, таго Місцюка, які знішчыў гэты дзетдомаўскі сад, каб збудаваць на яго месцы сваю хату. Таго самага Місцюка, якога паводле існуючых стэрэатыпаў так і хочацца аднесці да прагматыкаў, хітраватых мужычкоў, якія прывыклі дбаць адно пра сябе. Тым больш, што і сам аўтар пры ўсім імкненні да праўдзівасці не можа ўнікнуць літаратурнай звычкі і ставіцца да гэтага героя залішне адназначна. Толькі ці так ужо і трэба наракаць на прагматызм Місцюкоў? Можа, без гэтай хітраватасці і прагматызму (а, па сутнасці, — здаровага погляду на жыццё) і не змаглі б яны перачакаць «кукурузны бум» і іншыя, падобныя гэтаму, сельскагаспадарчыя мерапрыемствы. Ці не дзякуючы гэтым рысам, нягледзячы ні на якія цяжкасці, і здолела захавацца ў душы Місцюкоў тая спрадвечная любоў да зямлі і вернасць бацькоўскім вытокам. Маральным максімалістам быў Мар'ян Знавец, усюды і ва ўсім ён ішоў наперадзе, сам паказваў прыклад (і, дарэчы, не заўсёды толькі ў добрым). Місцюк жа ніколі не імкнуўся быць прыкладным, ён заўсёды хацеў толькі аднаго — сумленна займацца сваёю спрадвечнай сялянскай працай. Безумоўна, Мар'яну было цяжэй, ён адказваў не толькі за сябе, а браў на свае плечы адказнасць і за дзеянні Місцюкоў. Ён заўсёды знаходзіўся паміж двух агнёў, і нечай праўдай заўсёды вымушаны быў паступацца. І таму разам са сваёй прыкладнасцю набываў Мар'ян незаўважна для сябе і пэўную абмежаванасць, траціў здольнасць рэалістычна ацэньваць складаныя грамадскія і сацыяльныя з'явы. Місцюк жа, можа, дзякуючы зноў-такі гэтай сваёй спрадвечнай сялянскай прагматычнасці, бачыў і разумеў іх глыбей за Мар'яна, што і пацвердзіў эпізод іх адзінага ў рамане спаткання, калі яны цёмнай ноччу, як злодзеі, закопваюць у дзетдомаўскім садзе бюст таго, каго так шанавалі. Так Мар'ян нідзе і ніколі не ішоў насуперак уласнаму сумленню (не, бадай, гэта не зусім праўда — а эпізод, калі ён закопвае помнік, а адносіны да факта рэпрэсіравання бацькі?). Гэта чалавек, які быў заўсёды шчыра адданы свайму грамадзянскаму абавязку, і таму, можа, не заўсёды мог прытрымлівацца свайго абавязку чалавечага. І не выпадкова так сталася, што адышоў Мар'ян назаўсёды і не засталося пасля яго нашчадкаў, каб прадоўжыць яго род і яго справу на роднай зямлі. Чаму? Напэўна, таму, што ў вартасцях і станоўчых рысах Мар'яна хаваліся і яго недахопы. У адным з надрукаваных нядаўна вершаў У. Някляева ёсць наступныя радкі:

**На, ён сказаў. Павер — і не памрэш,**
**Мяне і род мой ты перажывеш.**

**І я яму паверыў. Напавер**
**Злізаў атруту з далані, як звер.**

**Не бойся, ён шаптаў, не бойся, не...**
**Памерці даў — і ўваскрасіў мяне.**

**І з той пары дапытваць стаў. Чаму**
**Паверыў не сабе я, а яму?**

Бяда ўсіх гэтых Місцюкоў, што яны вераць у першую чаргу сабе. Але ў гэтым не толькі іх бяда, але і сіла. Менавіта ў гэтым выяўляецца цэласнасць і арганічнасць іх натуры. Яны заўсёды застаюцца вернымі сваім прынцыпам і сабе. Хай сабе гэтыя прынцыпы будуць памылковыя, але пакуль яны самі не зразумеюць памылковасць іх — яны ад іх не адступяцца. Карацей, яны заўсёды застаюцца самі сабой, чаго не скажаш пра Мар'яна.

На месцы цяперашняга дзетдомаўскага саду стаялі калісьці дзве хаты — Знаўцоў і Місцюкоў. Не па добрай волі, а ў выніку непрадбачанай неабходнасці пакінулі яны свае селішча. І падобна таму, як спрадвечная памяць продкаў жыве ў душы Сноўдалы-зубра і вядзе яго па былой зубрынай дарозе, так і ў душы Місцюка таксама не памірае гэтая памяць продкаў. Сімвалам гэтай памяці, своеасаблівым апазнавальным знакам стала для Місцюка месца былога бацькоўскага селішча (у Сноўдалы-зубра — гэта старажытны дуб, да якога спрадвеку прыходзілі паміраць зубры). Гэтая памяць і змушае Місцюка вярнуцца на былое селішча, нават калі дзеля гэтага трэба было знішчыць былы дзетдомаўскі сад (Сноўдала-зубр таксама руйнуе будынкі, якія стаяць на яго дарозе). Мар'ян жа, можа, таму,

(Заканчэнне на стар. 6—7)

# КАЛІ БЕРАЖЭШ КАРАНІ

*М. Пракаповіч. На кругі свае. Вершы і паэма. Мінск, «Мастацкая літаратура» 1986.*

Чытаючы кнігу, заўсёды хочацца выявіць асноўнае, што хвалюе, радуе і засмучае таго, хто пісаў яе. З чым прыйшоў, якім прыйшоў да нас М. Пракаповіч, якія яго жыццёвыя далягляды, яго грамадзянская пазіцыя, яго мастакоўскія адметнасці, ці не будзе для нас абыякавым yгонае запрашэнне «На кругі свае»?

З першых старонак лірычнай споведзі аўтар спрабуе пазначыць свае часавыя і геаграфічныя каардынаты, імкнучыся да размовы канкрэтнай і эмацыянальнай. Верш, які так і называецца, — «Радавод» — не толькі ўдалая спроба ў форме верлібра, але і твор у нейкай ступені праграмны, стрыжнявы для аўтара, бо праз яго прачытваюцца і многія вершы зборніка, і паэма, якая дала яму назву. Не выглядае чужародным у структуры верша і рыфмаваны фрагмент з дзіцячага фальклору, які надае апавядальным інтанацыям большую цеплыню, давер да непаспешлівых развaг і высноў. А вось верш «Калі ліхалецце знянацку...», які папярэднічае «Радаводу» і напісаны ў манеры ўстойлівай сілабатонікі, вызначаецца некалькі дэкларацыйна-аблегчаным выпрашэннем задумы, а яго заключныя радкі «Тады падымаецца крона, калі беражэш карані» нагадваюць абыгрыванне вядомай разанаўскай формулы: «Тады выстойваюць падлескі, калі выстойваюць лясы».

У раздзел «Паходжанне», што адкрывае кнігу, уключаны вершы рознай тэматыкі, але адзіныя паводле задумы—паўней пазнаць сучаснасць і мінулае, сябе і сваіх равеснікаў у кругазвароце дзён і падзей.

М. Пракаповіч гаворыць пераважна аб тым, што яму блізка і дорага, што добра вядома ці непакоіць, нягледзячы на часавую адлегласць. Гаворыць ён звычайна не надта гучна, але пераканана і ўпэўнена, з добрай праматой і яснасцю. Вершы «Дзве размовы з сынам пра Радзіму», «Плёшча», «Над Белай Руссю ранак...», «Сябрына», «Беларускі трыпціх» можна занесці і ў аўтарскі актыў, і ў набытак паэзіі яго пакалення.

Балючая, незагойная памяць народная перадаецца і тым, хто сам асабіста не быў ні сведкам мінулай вайны, ні ўдзельнікам нялёгкай барацьбы з ворагам. Эпізоды саракагадовай даўнасці па-свойму, напрыклад, уваскрашае М. Пракаповіч у «Баладзе сорак пятага года»:

**Сорак пяты...**
**май...**
**І на Палессі**
**жоўтым морам лотаць**
**зацвіла.**
**На слязах настоеная песня**
**Перамогу пад руку вяла.**
**Як яна гучала апантана,**
**як чакала гэтую вясну!**
**Толькі чорную хусцінку**
**Ганны**
**песня ўсё хацела абмінуць.**
**Толькі перад хатаю Куліны**
**галасы прыцішыла яна.**
**...А ў салдацкіх пісьмах**
**з-пад Берліна**
**не канчалася ніяк вайна.**
**І нясла ўчарашнія пакуты**
**па вясенніх сёлах і дварах.**

**З незнаёмым почыркам**
**трохкутнік**
**на паўслове песню абарваў.**
**Незваротна, непапраўна,**
**страшна.**
**Плача паштальёнка ля варот.**

**І плыве над хатамі бязважка,**
**як жураўлік,**
**той трохкутнік сорак год.**

Адзін з галоўных матываў першага раздзела, як і ўсяго зборніка, заяўлены радком «Не дазволь зрабіцца блудным сынам» з верша «Сябрына». Актыўна не прымаючы бездухоўнасць, аўтар не выпадкова ўзіраецца ў постаці і самаахвярных герояў Вялікай Айчыннай, і ў аблічча няскораных людзей больш аддаленых часоў («Вяртанне Міхаіла Агінскага», «Дантон»). У сваім звароце да рэальных гістарычных асоб ён, бывае, церпіць і няўдачу. Напрыклад, у вершы «Дантон» паказ безвыходнасці героя не набывае адпаведнага драматычнага напаўнення і псіхалагічнай разгорнутасці ў фінале:

**Плывуць у нябыт хвіліны,**
**Як варты глухія крокі...**
**Гарачы нож гільяціны**
**Паставіць апошнюю кропку.**

Нейкай бяседнаю танальнасцю, без налёту кідкай эстраднасці, запамінаюцца лаканічныя вершы «Спіць мой сын...», «У клопатах, у шумнай мітусні...». У вершы «Лямпу патушу. Прысяду...» ёсць той роздум, які сведчыць не толькі аб узроставым пасталенні аўтара, але і аб яго душэўным неспакоі, які з гадамі пабольшаў, калі ўсведамленне адказнасці за абраную справу, за свае слова, адрасаванае людзям, становіцца жыццёвым прынцыпам.

Зварот да фальклорных матываў істотна пашырае і самую лексіку лірыкі, і яе структурныя абсягі. Аўтар не толькі плённа выкарыстоўвае народныя прымаўкі і прыказкі, урыўкі з песень, замоў, галашэнняў, пацешак і г. д., але і пільна прыкмячае народныя звычаі, якія не сталі архаічным здабыткам. Часам пра гэта можна запамінальна сказаць і адзіным сказам: «І хлеб, прывезены мною з горада, накрые (маці.—**В. Я.**) вышытым ручніком».

Тэме кахання паэт прысвяціў лірычны цыкл «Вуліца згоды», у які ўвайшлі амаль два дзесяткі вершаў. Яны не ўсе аднолькавыя ў мастацкіх адносінах, не ўсе, відавочна, будуць і ўспрыняты чытачом як паэтычныя з'явы. Магчыма, сярод іншых прычын, якімі тлумачыцца пэўная спрошчанасць, эскізнасць, аблегчанасць адлюстравання,—тое, што аўтар у такіх выпадках не раскрывае складаны ўнутраны стан, пера-

# НЕВЫЧЭРПНАЯ КРЫНІЦА ТВОРЧАСЦІ

*А. Русецкі. Самадзейная мастацкая творчасць як фактар камуністычнага выхавання працоўных. На рускай мове. Мінск, «Беларусь», 1986.*

Навукова-тэхнічная рэвалюцыя з яе няўмольнай тэндэнцыяй да стандартызацыі ўкладу жыцця не пахіснула значэнне самадзейнай мастацкай творчасці ў духоўнай культуры народа. Не можа пацясніць самадзейную мастацкую творчасць і развітое прафесійнае мастацтва. Нават самыя глыбокія знаўцы не адмовяцца прысутнічаць на канцэрце мастацкай самадзейнасці, наведаць выстаўку работ народных умельцаў.

На рахунку нашых вучоных і публіцыстаў не многа прац, у якіх праводзіцца глыбокі аналіз сучаснага стану самадзейнай творчасці беларускага народа, хоць тут здабыткаў, бадай, не менш, чым у іншых сферах яго дзейнасці. Вось чаму ўвагу наведвальнікаў кнігарань так прыцягнула кніга А. Русецкага «Самадзейная мастацкая творчасць як фактар камуністычнага выхавання працоўных». Яе можна рэкамендаваць не толькі партыйнаму і камсамольскаму актыву, работнікам культасветустаноў, але і самаму шырокаму колу чытачоў, асабліва тым, хто мае пэўнае дачыненне да таго ці іншага віду самадзейнай мастацкай творчасці.

У кампазіцыйным плане кніга складаецца з дзвюх частак: у першай аналізуюцца характар і змест, месца самадзейнай мастацкай творчасці ў духоўным жыцці, яе багацце і разнастайнасць, у другой, больш практычнай, разглядаюцца шляхі ўздзеяння народнага мастацтва на ўзбагачэнне эстэтычнай культуры чалавека, уносяцца, зыходзячы з назапашанага ў Беларусі вопыту, прапановы па актывізацыі мас з мэтай шырокага прыцягнення іх да ўдзелу ў стварэнні духоўных каштоўнасцей. Такі падыход аўтара да асвятлення праблемы зрабіў кніжку карыснай як для тэарэтыкаў у галіне культуры, так і для практыкаў, непасрэдных удзельнікаў самадзейнай мастацкай творчасці.

Мастацкая творчасць—гэта адзін з важных паказчыкаў, які характарызуе ўзровень грамадскай актыўнасці чалавека, яна выступае ў якасці адной з сур'ёзных перадумоў фарміравання духоўна развітой, унутрана багатай асобы.

І хоць мастацкая самадзейнасць нараджаецца з уласцівага народу імкнення да прыгажосці, існуе сталая патрэба ў свядомым кіраванні гэтым працэсам, яго матэрыяльным і ідэалагічным забеспячэнні. Што ў рэспубліцы робіцца ў гэтым напрамку, паказана А. Русецкім даволі пераканаўча. Паводле прыведзеных ім звестак, да ўдзелу ў розных калектывах мастацкай самадзейнасці прыцягнута каля аднаго мільёна двухсот тысяч чалавек. За 1983—1985 гады яны далі 400 тысяч канцэртаў і спектакляў, на якіх прысутнічала да 70 мільёнаў гледачоў!

Дапытлівы чытач можа даведацца, якія здабыткі маюцца ў развіцці дэкаратыўнага мастацтва, мастацкіх промыслаў, якая работа праводзіцца ў літаратурных аб'яднаннях, клубах самадзейнай песні, дзіцячых філармоніях і г. д.

У асобных людзей існуе памылковая думка, што мастацкая самадзейнасць—асабліва калі размова ідзе пра фальклорна-этнаграфічныя калектывы,—гэта справа людзей сталых. Аднак у кнізе А. Русецкага прыводзіцца шмат прыкладаў актыўнага ўдзелу моладзі, вучняў агульнаадукацыйнай школы ў мастацкай самадзейнасці, у чым можна бачыць заруку вялікай любві і павагі новага пакалення да духоўных традыцый свайго народа, яго

# ВЯРТАННЕ ДАВЕРУ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)**

што адышоў ад спрадвечнай дарогі бацькоў — жыве ён у вёсцы, але даўно ўжо не з'яўляецца хлебаробам, — гэтую памяць і сувязь адчувае слабей. І таму пакінулі яго дзеці родны кут, і таму няма нашчадкаў у Светкі, якая засталася пры бацьку, а ў Місцюкоў — поўная хата дзяцей. І застаюцца нашчадкі Місцюка ў вёсцы, і за імі — будучыня вёскі...

Глыбока схаваная ад староннiх вачэй, нават неўсвядомленая самім, дрэмле гэтая памяць продкаў і ў душы Івана Вескаўца, героя рамана В. Гігевіча «Мелодыі забытых песень». Змяняюцца зімы і вёсны, мінаюць гады, з жыццёвай дарогі Івана адыходзяць адны і прыходзяць другія людзі, але не знікае ў душы героя адчуванне нейкай нерэальнасці, таго, што з ім адбываецца, нібыта і не жыве ён, а знаходзіцца ў доўгім і нудным сне, і ніяк не можа прачнуцца. І не вырвацца Івану ніяк з гэтага палону, таму што, каб вырвацца, трэба яму стаць самім сабой. А ён занадта даўно стаў жыць па чужых мерках, падладжвацца пад іншых, трапіў у палон стэрэатыпных уяўленняў, і зараз плыве, як трэска па хвалях, апраўдваючы ўсё для сябе складанымі абставінамі жыцця. Калі ж яна пачалася, гэтая страта ўласнага «я»? Можа, тады, калі маўкліва пагадзіўся з практычнымі захадамі цесця, каб забяспечыць сабе навуковую кар'еру? Ці тады, калі дазволіў жонцы замест звыклага роднага імя назваць дачку прэтэнцыёзна — Анжэлай? А можа, тады, калі не запярэчыў цешчы, якая адабрала ў Анжэлы напісаныя «некультурнай вясковай мовай» дзіцячыя кніжкі? А можа, раней? Тады, калі без лішніх разваг і роздумаў прыняў для сябе напавер стэрэатыпны, стандартны ўклад жыцця сярэдняга чалавека — як усе, так і я, і гэтым адразу і назаўсёды пазначыў для сябе межы магчымага і немагчымага, і ўжо ніколі не імкнуўся і не марыў пераступіць іх? «Калі прырода пазбавіла чалавека здольнасці хадзіць на чатырох нагах, яна дала яму як **посах** — ідэал»,— гаварыў М. Горкі. Іван свядома пазбаўляе сябе ідэалу, і гэта прыводзіць яго да духоўнага і маральнага крызісу. Ад складаных і супярэчлівых з'яў і праблем сучаснасці, якія ён не ў стане зразумець і змяніць, але ад якіх ён цалкам залежыць, хаваецца герой, як чарапаха ў панцыр, у вузкі свет свайго сямейнага жыцця. Але і гэтае адзінае, што, здавалася, цалкам падуладна яму, аказваецца мрояй.

Праблемы сучаснай сям'і, якая, па сцвярджэнні сацыёлагаў, перажывае своеасаблівы крызіс, закранаюцца і ў аповесці А. Асіпенкі «Рэха даўніх надзей». Усе свае няспраўджаныя мары, надзеі і спадзяванні ўсклала гераіня аповесці Хрысціна на сваіх дзяцей. Гэтыя яе надзеі былі досыць рэальныя і прагматычныя—жыць інакш, чым жыве яна, Хрысціна, — вучыцца, таму што дарога да гэтага іншага цікавага і прыгожага жыцця — толькі праз навуку. Дзеці Хрысціны атрымалі адукацыю і пакінулі вёску. Ідэал, да якога яна імкнулася, здаецца, увасобіўся ў жыцці. Але гэтыя спраўджаныя надзеі не прынеслі жаданага плёну. Няма шчасця і радасці ў дзяцей Хрысціны. І сама яна не рада — дзеці жывуць інакш, яны не такія, як ёй хацелася. Рэха даўніх надзей Хрысціны падало свой голас, але не той, на які яна спадзявалася, не той, якога чакала. Тая ўпартасць і жыццёвы практыцызм, што жылі ў душы Хрысціны, у душах яе дзяцей увасобіліся ў халодны разлік, абыякавасць і эгаізм. «Што іх звязвала?.. Іх звязваў рацыяналізм. Халодны, бязлітасны разлік. Адсюль самаўпэўненасць, самаўлюбёнасць, карыслівасць, фанабэрыя, эгаізм, узведзеныя ў прынцып жыцця і свайго існавання на зямлі», — так даволі проста тлумачыць Хрысціне яе сват прычыны разбурэння сям'і іх дзяцей. Стараючыся вызначыць карані гэтых з'яў, герой прыходзіць да высновы: «Хіба не бачылі гэтай агромністай хвалі, што хлынула з вёскі ў горад? Бачылі! Хіба не ведалі, якую яна нясе з сабой псіхалогію, норавы, звычкі, традыцыі, адносіны да жыцця? Ведалі! Дык на што спадзяваліся? Што пралетарскі кацёл пераплавіць свядомасць сялянскай псіхалогіі. І ніхто не мог заікнуцца, што не горад паўздзейнічае на вясковую масу, а яна на горад. Ды і якія былі нашы гарады? Астраўкі ў сялянскім моры! І іх не проста засяліў вясковы люд, ён падмяў, падпарадкаваў, перайначыў іх на свой лад, прынёс свае традыцыі, звычаі, псіхалогію, і прытым не лепшую, а горшую, ды яшчэ сам нахапаўся той пены, што вечна трымалася на паверхні гарадскога жыцця. Во дзе пачатак і крыніца такіх сумных з'яў, якія часам трапляюцца ў цяперашнім жыцці...» Памылковасць гэтай высновы настолькі відавочная, што не варта было б засяроджваць увагу на ёй, калі б яна ўскосна не пацвярджалася ўсёй сістэмай вобразаў, у гэтай цікавай па задуме і псіхалагічна-праўдзівай па выяўленні мастацкіх характараў, аповесці. І калі б не існавала ў свядомасці чытача стэрэатыпнай формулай вытлумачэння складаных сацыяльных з'яў сучаснага жыцця, асабліва на тэрыторыі нашай рэспублікі, дзе працэс урбанізацыі пачаўся адносна нядаўна. Добра, хай сабе нашы беларускія гарады былі «астраўкамі ў сялянскім моры», але як тады быць з вялікімі прамысловымі цэнтрамі Расіі, дзе «пралетарскі кацёл» быў настолькі вялікі і трывалы, што мог без шкоды для сябе паглынуць «свядомасць сялянскай псіхалогіі»? Чым растлумачыць наяўнасць амаль такіх жа праблем у іншых развітых прамысловых краінах свету? Рацыяналістычны падыход да жыцця, функцыяналізм, крызіс сучаснай сям'і — праблемы не вузка нацыянальныя, а больш глабальныя, можа, нават сусветнага маштабу.

**Васіль БАРКОВІЧ**



Васілю Барковічу пашанцавала на выкладчыцу роднай мовы і літаратуры — з-пад клапатлівага крыла паважанай і вядомай у нашай рэспубліцы настаўніцы, выдатнага педагога мінскай СШ № 124 В. В. Войцік вылецела не адна чародка птушанят-выхаванцаў, свядомых людзей, што не ўмеюць, не жадаюць і ўжо не змогуць быць «манкуртамі», пазбаўленымі гістарычнай памяці і абыякавымі да духоўных набыткаў свайго народа.

З Васілём я пазнаёміўся праз школу «Юны літаратар», якая стваралася з намерам выяўляць і падтрымліваць парасткі юных талентаў.

Пакуль што, зразумела, хлопец робіць усяго толькі першыя крокі ў літаратуры. Заслугоўвае пахвалы сур'ёзнасць, з якой Васіль аддаецца абранай справе. Так, летась ён на навуковую канферэнцыю навучэнцаў горада Мінска падрыхтаваў даклад «Вобраз маладога сучасніка ў творчасці Васіля Гігевіча». У творчым набытку В. Барковіча досыць вялікі па памерах празаічны твор, некалькі апавяданняў-замалёвак і пару дзесяткаў вершаў. Сёлета Васіль скончыў школу і паступіў на філфак універсітэта. Пажадаю здзейсніцца яго светлай мары сказаць сваё слова ў роднай літаратуры.

Яўген ЛЕЦКА

## *Апошні званок*

Настаўніку і Чалавеку
В. В. ВОЙЦІК

Мінуць гады,
І гэтае расстанне,
І ўсё, што да яго было між намі, —
Падзеі, мары, шчасце і спатканні —
Наступнымі жыццё заслоніць днямі.

Мы пасталеем,
Потым пастарэем,
Навучымся бядзе глядзець у вочы,
Навучымся таму, чаго не ўмеем —
Успамінаць
Аб добрым і аб змрочным.

І гэты дзень,
І шчырасць пажаданняў
Я ў памяці навечна захаваю,
Як гул зямлі сваёй і зорак ззянне,
Палыну горыч,
Водар караваю.

Святочны шум.
Апошняя сустрэча.

●

Зіма. Марозны ранак. Цішыня.
Паважна ззяе снегу цаліна.

Вакол маўклівы лес.
Такі спакой!
Міжволі падымаецца настрой.

Як змалку, хочаш стукнуць па сасне,
Каб глуха загула, нібыта ў сне,
Каб ссыпала з галін насеўшы снег,
Каб весела было,
Каб чуўся смех.

●

Вакол пануе лёгкі змрок
І стомлены святлом мой зрок
Тут спачывае.

Здаецца, толькі ноч ды я,
І мо таму душа мая
Між зор лунае.

І ў той нябачнай вышыні
Шукае шчасця,
Цеплыні
Між зор шукае.

Гляджу на зоры зноў і зноў,
Бо з маладых сваіх гадоў
Іх палюбіў і кожны дзень
Чакаю.

# ДВА АПАВЯДАННІ



**Сяргей ТАРАСАЎ**

Вучоныя, жартуючы, называюць археалогію навукай аб разбітых гаршках. Дваццаціпяцігадовы мінчанін археолаг Сяргей Тарасаў, які ўдзельнічаў у раскопках на рацэ Менцы, на мінскім замчышчы, на зямлі славутага Полацка, трымаў у сваіх руках не толькі чарапкі ад старадаўніх амфар і карчаг. Мячы трымаў, бранзалеты, пярсцёнкі, сякеры, шахматныя фігуркі... Шмат неразгаданых таямніц хавае беларуская зямля.

Чалавек, улюбёны ў даўніну — заўсёды крышачку паэт. Ён чуе вецер, які шумеў над Нямігай і Палатой у далёкіх незваротных стагоддзях. І мне здаецца абсалютна заканамерным тое, што археолаг Сяргей Тарасаў пачаў пісаць. Пісаў яшчэ ў школьныя гады, пісаў, калі вучыўся на гісторыка-замежным (быў такі) факультэце Мінскага дзяржаўнага педінстытута імя М. Горкага, калі служыў у войску. Аднойчы нават быў адзначаны прэміяй на рэспубліканскім конкурсе літаратурных твораў для дзяцей.

Мне хочацца пажадаць маладому аўтару ўдачы. Ён добра валодае словам, у яго багаты запас жыццёвых уражанняў і назіранняў. Застаецца пісаць, працаваць і памятаць, што не багі гаршкі лепяць.

Леанід ДАЙНЕКА

## АДЛІГА

Адліга ў канцы лютага — суцэльная калатуша пад нагамі. Зрэдку халодны паўночны вецер прыносіць то снег, то дождж. Пачуццё няўтульнасці на гарадскіх вуліцах. Вецер чапляецца за дахі дамоў, нема вые ў камінах. Узбіраючыся на вал, ахутвае вежы і зноў знікае, распластаўшыся над Дзвіною.

Адчувалася набліжэнне вясны. Але як яшчэ далёка да сапраўднага цяпла!

Ноч. Ледзь чутны стук у шыбу.

— Хто там?

— Адчыні, гаспадыня, пусці ў хату!

— Добрыя людзі па начах не швэндаюцца. Хто ты?

— Хведар, закладнік Панфуцыя. Ды адчыні хутчэй, замерзну!

Жанчына накінула андарак і пайшла адчыняць.

Ляпіў мокры снег.

Праз нейкі час па лесвіцы пачуліся ціхія крокі. У хату, прыгнуўшы галаву, увайшоў чалавек. Знайшоў навобмацак лаву, сеў.

— Чакай, чакай, міленькі, зараз святло запалю.

Прачнуўся і гаспадар. Выкрасаў агонь, запаліў свяцільнік. Доўгія хісткія цені папаўзлі па хаце.

На лаве, ля самых дзвярэй, прыхінуўшыся да сцяны, сядзеў чалавек. Вочы заплюшчаны. Без шапкі, у нейкіх лахманах і дзіравых поршнях з гнілымі аборамі. Прыціх, быццам заяц, якога трымае за вушы паляўнічы. Мокрыя лахманы абвісалі на худым, змарнелым целе. Снег раставаў, вада сцякала на падлогу.

Гаспадары маўчалі. Чалавек расплюшчыў вочы. Былі яны надзіва жывыя, што ніяк не стасаваліся з яго аблічам. Агледзеў хату, спыніў позірк на гаспадарах:

— Збег я, людзі добрыя, ад крывасмока баярына Панфуцыя. Не вытрымаў — гасподзь сведка! Ці ж можа такое вытрымаць чалавек?

— Чулі пра твайго Панфуцыя,— сказаў гаспадар, цярэбячы бараду.— Не першы ты такі ў Полацку і, відаць, не апошні...

Памаўчалі.

— Адкуль будзеш?

— З недалёк — з-пад Дзісны, з Мядзведжага Логу. Мо чулі?

— Не.

— Гаспадарка там у мяне была. Жонка, дзеці, зямелькі крыху. Усё прахам пайшло. Усё. А я пянезі адрабляць сюды трапіў. Ды толькі восьу гэтых даўгах заблытаўся. Быў араты, а стаў горш за дворнага сабаку. Хведар — туды, Хведар — сюды, прынясі, падай, пайшоў прэч! Ды усё са злосцю, з кулакамі. А я хто? Хто, вас пытаю? Чалавек ці жывёла? Бач ты, нейкі там ягоны прадзед з князямі знаўся, дык ён вышэй за бога сябе лічыць! У-у, сабачы вырадак! — Хведар моцна сціснуў кулакі.

— Што далей маеш рабіць? — голас гаспадара спакойны і разважлівы.

— Ведама, што — да войта ўцяку. Не той час, каб пад гэткім гадам сядзець. Цяпер, калі Вялікі князь Аляксандр дараваў нам права майборгскае, адна дарога — пад абарону гарадской рады. Яна не выдасць баярыну. Лепей ужо на горад рабіць. А то, можа, у войска падамся. Абы ад гэтага крывасмока далей!

— Глядзі-і! — сказаў гаспадар,— нялёгка будзе, чалавеча.— У горадзе тыя ж баяры, ды і войт не ад сахі — шляхціц. Пакуль яны ўсіх прымаюць, а як далей будзе — хто ведае...

— Ат, як будзе. Уцёк раз, уцяку і другі.

— Уцякай, уцякай... Калі-небудзь зловяць. Толькі галавы трымайся, каб не ўцякла.

— Мая галава, мой і клопат.

— Яно, вядома, так... Есці хочаш? Марыя, дай чаго чалавеку укусіць.

Але гаспадыня ўжо трымала акраец хлеба і коўш халоднага квасу. Хведар дрыжачымі рукамі схапіў хлеб і прагна стаў есці.

Пакуль еў, сядзелі моўчкі.

— Дай яму, Марыя, якое адзенне,— сказаў гаспадар жонцы.— і няхай ідзе з богам.

— Дзякуй і на гэтым, — уцякач павольна падняўся з лавы, быццам разважаючы: ісці ці не.— Добрага вам здароўя,— і, не азіраючыся, выйшаў з хаты.

Забрахаў суседскі сабака, потым другі, трэці. Але хутка ўсё сціхла. Чалавечая постаць знікла ў вузкіх вулачках начнога горада.

— Тата, навошта ты прагнаў яго? — пачуўся раптам з-за коміна дзіцячы голас.— Куды ж ён пойдзе ўночы?

— Ты што не спіш, Францыск? — гаспадар рэзка павярнуўся да печы, адкуль выглядала бялявая галава сына.

— А ўсё-ткі, тата, навошта?

— Не твой клопат — малы яшчэ. Спі! Марыя,— звярнуўся ён да жонкі,— што за сына ты мне гадуеш? Не слухаецца бацькі.

— Кладзіся, сынок, спі! Ноч на дварэ. Кладзіся!

— Хведар там мокне на вуліцы, а я — кладзіся? Ты ж сам, тата, казаў, што людзям спачуваць трэба.

— Трэба, вядома,— больш лагодна адгукнуўся бацька.

— Дык навошта прагнаў? — не сунімаўся сын.

— От, мала-смала! Прыліп! Не я яго гнаў, Францыск, не я. Такі лёс ягоны. Цяпер увесь свой век валачыцца будзе. І ці спыніцца калі?

— Чаму?

— Разумееш, сынок, кожны чалавек павінен мець свае карані, як дрэва ў зямлі. А падсячэш іх — паляціш, што тое лісце долу. Вось ён, Хведар, і адсек свае...

— Ды гэта ж не ён, а баярын Панфуцій!

— Ох, і разумны ты ў мяне,— усміхнуўся бацька.— Так, Панфуцій. Толькі ад гэтага не лягчэй твайму Хведару. Ён — уцякач бяздомны, закладнік і такім застанецца ўсё жыццё. Куды б ні пайшоў, дзе б ні прытуліўся. Разумееш? Ніколі яму ўжо не быць вольным, ні-ко-лі. А гэта страшна, Францыск, вельмі страшна. Каб і хацеў я памагчы яму — не змог бы. Вядома, ад нас баярын не забраў бы яго, мы — купцы, людзі вольныя. Толькі пад войтам Хведару спакайней будзе. Колькі іх, такіх Хведараў, па зямлі нашай ходзіць. Не злічыць. Што ведаюць, што бачаць гэтыя людзі? Праца да сёмага поту ды жыццё беспрасветнае.

— Чаму ж так, тата?

— Каб ведаць, сынок, чаму — многае б змянілася. Вось у мінулым годзе прыйшлі да нас мніхі бернардыны. Прывілеі ім князь Аляксандр даў на землі тутэйшыя. Дзіўныя рэчы расказваюць: кнігі з сабою розныя прынеслі. Кажуць, у кнігах тых — праўда ўся і мудрасць. Ды кнігі не падобны на нашы, не ад рукі пісаныя. А яшчэ кажуць браты бернардыны, што ў горадзе Празе і ў іншых гарадах — навукам розным, нават лекарскім вучаць. Вось дзе трэба розуму шукаць ды каранямі ў зямельку нашу ўрастаць. І мне, і табе, і Хведару твайму. Шкада, што гады мае ўжо не тыя... У Хведара граша ламанага за душой няма. А ты расці, сынок, расці... Хто ведае...

— Ты што гэта, ірад, гаворыш?! Ты куды сына нашага сватаеш, у якую чужыну?! — Марыя ўсхапілася, як квактуха з седала.

— Сціхні, баба! Замаўчы! Нікуды я яго не сватаю. Там відно будзе. Сам свой шлях выбера.

●

— Спі, сынок, да раніцы яшчэ далёка. Вось і лучына патухла. Спі, мой родны! Пляце бацька няведама што... Ці ж я адпушчу цябе, маё птушаня, у далёкія чужынскія выраі?

**..Воўча вые за гарою,**
**Месяц ноцыцца Дзвіною...**

Спі, Францыск, сын Лукаша Скарыны з Полацка, ты яшчэ малы...

Спі.

## КРЫЖ

«Офросинья же раба Христова сътяжавъши крест сии приметъ вечную жизнь съ всеми святыми...»

Майстар разагнуўся, сеў, абапіраючыся на рукі. Рукі нылі, як і спіна, у вачах мільгацела ад бляску пазалоты.

Нарэшце, усё. Ігумення будзе задаволена. Але як цяжка, як цяжка ў апошні час працаваць! Немалады ўжо. А чаляднiку такі заказ не даручыш.

Ён устаў, адышоўся ад стала. Прытуліўся да сцяны, зноў глянуў на

Прывабныя красой букеты кветак
Нібы ў сябе ўвабралі лёгкі вечар,
Тугу і радасць,
Цёплы подых лета.

Магчыма, лёс нас занясе далёка
І быццам пыл рассее па Сусвету,
А час між намі замяце дарогі.
Тады мы ўспомнім пра сустрэчу гэту.

Успомнім, як пра нешта дарагое,
Няўмольна прыцярушанае часам,
І ў памяці са смуткам і тугою
Юнацтва і каханне ўстануць разам.

## Навальнічная хмара

Нядаўна са сляпой пацехай,
Закрыўшы цэлы свет сабой,
Ты з трапяткім гуллівым рэхам
Маланкі слала чарадой.
Здавалася, зямля дрыжэла,
З маланкай кожнай ажно млела
І гнуўся з ветрам гай бяроз,
Ты ж злосна дождж ліла з нябёс.

Калі ж нацешылася гневам
І зразумела нечы боль,
Дык горка плакала над дрэвам
У гневе спаленым табой.
І, як адчуўшы сарамлівасць
За недарэчную зласлівасць,
Ты прэч плыла адсюль,
Цішком,
Туды, дзе чуўся гулкі гром.

●

Чаму невядомае
Ўпарта
Шукаем
І рэдка знаходзім?
Чаму ўжо адкрытае
Марна
Губляем
І побач праходзім?
Усё зразумець я імкнуся,
Аднак не знаходжу адказу.
Я рысы адное баюся —
Завецца яна БЕЗАДКАЗНАСЦЬ.

крыж. Няблага, няблага выйшла. Такога ён яшчэ не рабіў.

...Сама маці ігумення разам з уладыкам Касьмом паклікалі яго да святой Сафеі. Кінуўся ім тады сівы Лазар у ногі, але падымаць яго не спяшаліся: далі адчуць, што ён — нішто, халоп бязродны. Паваляйся трохі, успомні, хто ты і дзе, набярыся цярплівасці, павагі і пакорлівасці.

Ды ён і не крыўдаваў. Розных нагледзеўся ўладык. А што халоп і гонару не мае — праўда. Дзень і ноч гне спіну над работаю. А паспрабуй інача й — з голаду, як сабака, здохнеш. Бо каму трэба яго майстэрства, апрача князёў, епіскапаў ды купцоў заможных? У каго яшчэ грошы? Мо ў абадранца Алексы, што дзярэ горла на вечы за кожнага, хто добра заплаціць? Ці ў суседа — Пятра-кажамякі? Не, яго работа не для чорнага люду. На Вялікім пасадзе і без яго ёсць каму бразготкі рабіць. Яшчэ колькі! І пярсцёнкі, і пацеркі, і бранзалеты... Ды і з Кіева вязуць! Ледзь не вазамі. Праўда, кіеўскія даражэйшыя, асабліва каляровыя. І ўсё ж не для яго гэта работа. Не можа ён разменьвацца на дробязі.

...Маці ігумення звысоку на яго паглядае. Колькі пагарды ў яе позірку! «Мы даруем табе міласцію нашай і даручаем... А калі не зробіш ці зробіш не даспадобы... і, крый божа, утаіць што...»

Ці ўпершыню ён чуе гэта? Даўно яе ведае, яшчэ з маленства. І Касьма позіркам праціна е, пад Ефрасіннію падладжваецца. Папярэднік яго, Ільля, — царства яму нябеснае — святы быў чалавек. А гэты — хітры і надзьмуты. Ну, ды бог з ім.

Лазар Богша прыняў заказ. Ён ведаў: акрамя яго, нікому ён не пад сілу. Ва ўсёй Полацкай зямлі.

Летась закончылі храм святога Спаса будаваць, а цяпер і крыж напрастольны яму будзе.

...Ён пільна ўглядаўся ў бліскучае тварэнне рук сваіх і каторы ўжо раз думаў пра дзівосы, якія адбываюцца з яго вырабамі. Богша не мог зразумець: ці нейкая чароўная сіла валодае ім у час работы, ці рэчы набываюць чарадзейства пасля акраплення іх святою вадою. Адкуль душа ў іх з'яўляецца?

Колькі разоў назіраў за асвяшчэннем. Не, не мяняюцца яны пасля. Ні бляску не набываюць болей, ні цеплыні. Але людзі падаюць перад імі, цалуюць і моляцца. І сам ён, майстра, цалуе і моліцца. Праўда, не без душэўнага разладу. Неяк дзіўна маліцца таму, што сам зрабіў. Гэткія думкі не раз прыходзілі ў апошні час. Відаць, стары стаў.

А былі ж іншыя часы.

Гадоў сорак назад трапіў у гэтыя мясціны малады залатар. Што тут рабілася! «Сё маё, а то маё жа!» — крычалі адзін аднаму маладыя князі. Усё ніяк не маглі падзяліць бацькавай спадчыны. Кожны трымаўся як стольны, кожны сабе ўсё цягнуў. Каб ён, Богша, падаўся тады да Менску ці Ізяслаўля,— невядома, як склаўся б яго лёс. Але Богша цвёрда памятаў словы майстра Канстанціна з Брачыслававага дворышча: «Хто б ні клікаў цябе,— трымайся галоўнага горада і Сафеі святой. Там моц і божая засцярога».

У Полцеск і прыйшоў. Тут рашыў свайго месца шукаць, бо ў Кіеве чаляднiку-залатару ў людзі не выбіцца.

Хай бы яны цяпер глянулі, тыя кіеўскія падбрэхічы, на ягоны крыж! Хто калі рабіў такое? Толькі золата ды срэбра, каменняў каштоўных ды жэмчугу на сто грыўняў ды яшчэ сорак, а дрэва добрага — без кошту. Дву на дзесяць лікаў святых утварыў з абодвух бакоў, надпісам і ўзорам дзіўным упрыгожыў. Не ведалі такіх кветак ні кіеўскія, ні нават царградскія майстры. Тутэйшыя яны, Полацкай зямлі.

І што за зямля дзіўная! А людзі! Няхай княжацкая праўда князям застаецца, а ў чорнага люду яна свая. Ні мудрагелістасці ў жыцці тутэйшым, ні бяздумнага заморскага хараства. Шануюць людзі і продкаў сваіх, і багоў. Ці не таму стары Усяслаў збег з Кіева, што не прыняла яго прарочая душа кіеўскага ладу? Ходзяць чуткі, быццам князь гэты ўсё жыццё поначы на Валовае возера гайсаў, паганскаму капішчу з лесу даніну зносіў. Нават у тыя часы, калі Сафею святую будаваў. А паганскія багі заступаліся за яго, на вялікі стол саджалі. Відаць, так і было, бо жыў ён болей за 70 летаў.

Але як жа так, калі бог у нас адзіны?

Ох, колькі ў жыцці разладдзя! — Сухой, схуднелай рукою майстра пачухаў патыліцу.— Зямля каменная, неўрадлівая. Праўда, лясы багатыя. Яны і кормяць у галодныя гады, і адзяваюць. А голад — ледзь не праз год.

Богша прыгнуўся, штурхнуў рукамі дзверы. Ступіўшы за парог, паслізнуўся:— Цьфу ты! Ледзь у гразь не ўваліўся! — драўляныя плахі дворышча даўно стапталіся і цьмяна бачыліся з барвова-чорнай жыжкі. А пакласці новыя не хапала сіл.

Па начным небе, як здані, плылі аблокі, між якіх ярка зіхацелі зоркі.

Колькі летаў мінула і колькі яшчэ міне, а яны ўсё блішчаць. І нічога з імі не станецца, хоць кажуць, што зоркі, як і людзі, паміраюць. Але ён гэтага не бачыў. Мо і добра. Хай сабе блішчаць. Хто ведае, з якой яго жыццё закоціцца... І ўсё ж крыўдна: ён памрэ, а яны застануцца. А што па ім застанецца? І ці ўспомніць хто Лазара Богшу? Мо запіша два словы пра яго, Лазараў крыж, той мніх, што ў келлі Сафейскай летапіс вядзе. Шкада толькі, што кніжны пергамен ненадзейны: і згарэць можа, і пацукі могуць з'есці. Ефрасіння — тая застанецца, бо сам напісаў па золаце: «В лето 6669 покладает Офросинья честный крест...» І манастыр вось збудавалі...

Лазар вярнуўся ў хату. Сеў на лаву, перавярнуў крыж тыльным бокам. Падліў у свяцільнік алею. Потым узяў інструмент і ў самым нізе, пад абразом святога Панцеляймона, дробненькімі літарамі пачаў выцiскаць: «Господи помози рабу своему Лазорю нареченому Богши сделавшему крест сии церкви святого Спаса и Офросиньи».

# З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Міхась СТРЫГАЛЁЎ**



## Музы не маўчаць!

На свет — што ж гэта за мара! —
зноў наплывае воблак трупны, —
здаецца: зноў грукоча ў рупар
перадваенная пара.

Над светам атамны распад
стаіць пагрозай штосекундна:
у свеце — голад, холад, хунта...
Ты — па-ранейшаму салдат!

Не! Не набралі ў рот вады
сумлення музы — рэй адметны
вядуць пад ценем злыбяды:
радок, нібыта залп ракетны,
паспее ў ворага заўжды!

## Лятучы лес

Таму Расія мне — як песня,
таму — высокі гонар мой,
што ўся, натхнёная прагрэсам,
імкнецца ў даль крамлёвым[1] лесам
да акіяна — па прамой...

Хоць памяць лесу не кароткая,
зарубкі інтэрвенцкіх куль
дагэтуль плачуць у рускіх сопках, —
я вам працягваю руку,

заакіянскі люд працоўны,
паны шаноўныя дзялкі...
давайце гандляваць —
галоўна
суіснаваць, дружыць грунтоўна,
давайце ў міры жыць вякі!

Дарога сопкай не канчаецца,
далей бруіцца ў акіян —
Вялікім Ціхім велічаецца
лятучым словам расіян.

## Красныя Казармы

Красныя Казармы —вайсковыя збудаванні ў Пярмі, дзе ў 1916—1917 гадах дзейнічалі вядомыя бальшавікі-падпольшчыкі Разалія Зямлячка і Емяльян Яраслаўскі. Дарэчы, у гэты ж час служыў там Якуб Колас. У часе грамадзянскай вайны ў Красных Казармах размяшчалася 3-я рэвалюцыйная армія, якой камандаваў В. К. Блюхер.

Вы чаму, сівыя камандармы,
і ў адстаўцы не сніцё спакой?
Можа, гэта — бой перад вачамі,
можа, гэта — Красныя Казармы
і гарніст з узнятаю трубой?

Так. То — ён. Казармы па трывозе
апусцелі ўміг. У ноч-паўноч,
дарагі таварыш, па дарозе
ты рашуча кроч, але не збоч!

Дзе блукае расстраляны вецер
і рыміць над логам куляў шквал,
дзе закручана ў трывузел веццe, —
на траву-бяссмертнік на дасвецці
ты ўпаў, забіты напавал.

Ты не чуў, як адтрубілі трубы,
як прамчаліся сябры праз дым. —
Камісар да хрусту сціснe зубы
над табой, гарністам маладым.

Вартавыя! Не прасіце грання.
Давярацъ не думайце начы!
Камандзіры па трывозе ўстануць —
і пабудку ў полымі барвяным
у казармах грымнуць трубачы.

Ганарліўка, дзеўчына, дзівачка,
чараўніца, прыйдзе да варот, —
перад ёю стомленую варту
зменіць горна зорнага ўзлёт...

## Ліпа векавая

Родная сяліба. Сэрца саграваe
ціхім шумам ліпа — ліпа векавая.
Ўзімку — голля рыпам, летам —
мёдацветам, —
лашчыць ранкам ліпа матчыным
прыветам,

ліпень мой на ўзлёце — пахне мёдам
лета.
Чуў, жыве ў народзе добрая прыкмета:
поўны мёду вуллей — ні вайны, ні мору.
Мір — у гудзе, гуле — ранак
белазоры...

Белых, сініх красак! — З ураджаем
будзем.
Урадзіла жыта — урадзіла бульба.
Радасць і надзея граюць прамяніста.
Гэй, маленства, дзе ты?
Дзе — маё дзяцінства?

Помню белы ліпень. Маці мне спявае:
«Дзе ж ты, мая ліпа, ліпа векавая!»

## Беларусь мая—пяе!

З вамі, меншыя мае,
я на «ты» — даўно паладзіў.
Мо таму звініць-пяе
Беларусь мая ў баладзе?

Сэрца — чуйны камертон —
грае Будучыню ўпарта.
Векавечных соснаў звон,
скажа мне, чаго я варты.

Звера я не загублю,
дрэўца, птушачку любую.
Я таму жыццё люблю,
што сябе ў ім век будую!

●

Няхай, няхай не Буда-Гай,
а Буда-Кашалёва, —
мяне ты клічаш, родны край,
па восені нанова.

І трохвяковыя дубы,
І Днепр — сквозь лес казённы,
І нават тыя галубы
над забароннай зонай, —

мяне вы клічаце заўжды
ў свет, лугі, абшары,
глытком крынічнае вады,
ладком гадзінкі шарай...

Смуткую я цяпер па вас,
майго дзяцінства шаты,
у першы — у апошні раз
каля бацькоўскай хаты...

[1] Крамлёвы—сасновы, бурштынавы (пра смалісты хвойны лес).



Цішыня.

Фотаэцюд І. АБРАЎЦА

## КАНЦЭРТНАЯ МАЗАІКА

# «ВОСЕНЬ» ЗНОЎ ДА НАС

20 лістапада ў рэспубліцы пачаўся Усесаюзны фестываль «Беларуская музычная восень». Традыцыя? Так. Мы прызвычаіліся, што апошняя лістападаўская дэкада праходзіць пад знакам гэтага прадстаўнічага форуму мастацтваў. Аднак і традыцыі мастацкага жыцця вымагаюць свежага погляду, і практыка правядзення ўсесаюзных фестываляў неадлучная ад працэсаў перабудовы, што адбываюцца сёння ў краіне.

Апошнім часам, не сакрэт, «пад крылом» буйных фестываляў знаходзілася месца і для ардынарных выканаўцаў, і для канцэртных праграм не лепшага гатунку. Цяпер робіцца захады, каб павысіць аўтарытэт такіх музычных свят, далучаць да ўдзелу ў іх праграмах лепшыя творчыя сілы краіны, запрашаць і вядомых замежных выканаўцаў.

Ці паўплывалі павевы часу на сёлетнюю, трынаццатую ўжо, «Беларускую музычную восень»? Што ж, афіша яе досыць разнастайная, госці, якія выступаюць поруч з беларускімі артыстамі, прадстаўнічы. З 450 запланаваных канцэртаў 264—так званага філарманічнага накірунку, астатнія —эстраднага. Сярод шматлікіх (каля 2 тысяч) удзельнікаў «Восені»—Маскоўскі дзяржаўны сімфанічны аркестр, сталы наш госць духавы аркестр з Літвы «Трымітас», знакамітая харавая капэла імя А. Юрлова, аркестр народных інструментаў Туркменскай ССР, Дзяржаўны квартэт імя Д. Шастаковіча, ансамбль танца Дагестана «Лезгінка», славутыя салісты-спевакі, скрыпачы, піяністы... Упершыню прыязджаюць да нас Дзяржаўны малы сімфанічны аркестр Саюза ССР, Кіеўскі ансамбль класічнага балета.

Удзельнікі «Восені»—майстры мастацтваў Беларусі і братніх рэспублік—прысвячаюць свае лепшыя праграмы 70-ай гадавіне Кастрычніка. А для беларускіх артыстаў сёлетні фестываль яшчэ і магчымасць падсумаваць пэўныя творчыя вынікі напярэдадні паўвекавога юбілею Беларускай дзяржаўнай філармоніі (ён будзе адзначацца ў наступным сезоне). Урачыстую ноту ўнясе ў гучанне фестывалю канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР, якім афіцыйна адкрыецца днямі новая філармонія—Брэсцкая абласная.

«Беларуская музычная восень» ужо гаспадарыць у буйных канцэртных залах і на сціплых клубных пляцоўках—па ўсёй рэспубліцы. Так бывае штогод. Сёлета, зразумела, у выключным становішчы—раёны, пацярпеўшыя ад чарнобыльскай трагедыі. Канцэртныя маршруты «Восені» пралягаюць праз Брагін, Нароўлю, Хойнікі... Тут выступяць артысты аднаго з папулярных нашых калектываў—Дзяржаўнага ансамбля танца Беларускай ССР.

Па традыцыі ўрачыстае адкрыццё фестывалю адбылося ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, а канцэрт закрыцця пройдзе, як заўсёды, у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР. У яго шматжанравай праграме возьмуць удзел вядучыя беларускія выканаўцы і нашы госці.

**С. ВЕТКА**

# ІГРАЮЦЬ ЖЫНОВІЧАЎЦЫ

Кожнае выступленне Дзяржаўнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча—адметная падзея для аматараў народна-інструментальнай музыкі. Вядома, што рэпертуарам аркестра зацікавіліся вядучыя калектывы краіны: Дзяржаўны акадэмічны рускі народны аркестр імя М. Осіпава, аркестр Новасібірскага радыё і тэлебачання. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор жыновічаўцаў М. Казінец падрыхтаваў дзве праграмы з аркестрам народных інструментаў Усесаюзнага тэлебачання і радыё.

Росту ўзроўню рэпертуару садзейнічае супольны творчы пошук беларускіх кампазітараў і выканаўцаў. Адзін з прыкладаў такога супрацоўніцтва—Канцэрт для баяна Э. Наско, напісаны для артысткі аркестра С. Лясун.

У канцэрце ўпершыню прагучалі і выклікалі вялікую цікавасць слухача новыя творы маладых беларускіх кампазітараў В. Кузняцова і А. Рашчынскага. «Урачыстая прэлюдыя» В. Кузняцова—сачыненне вельмі светлае, радаснае па характары. Дарэчы, гэтым аўтарам за апошнія гады напісана для народнага аркестра некалькі твораў: «Рапсодыя для двух цымбалаў з аркестрам», «Вяселле», «Жаночыя песні для голасу з аркестрам». Дзве музычныя карцінкі «Вяселле» і «Свята» А. Рашчынскага—музыка дасціпна-характарыстычная, надзвычай маляўнічая, пазначаная дакладным адчуваннем выразных магчымасцей асобных інструментаў і ўсяго аркестра.

Сёння ёсць усе падставы гаварыць, што Дзяржаўны народны аркестр БССР стаў незаменнай творчай лабараторыяй і стымулам натхнення, школай майстэрства і творчай смеласці беларускіх кампазітараў. (Нельга тут не сказаць і пра музыканта-працаўніка, чые інструментоўкі вызначаюць аблічча аркестра,—А. Курмакіна).

Значны ўклад у стварэнне рэпертуару аркестра ўносяць кампазітары старэйшага пакалення: Я. Глебаў, А. Мдзівані, Г. Вагнер. «Канцэрціна для цымбал з аркестрам» Я. Глебава ўдумліва і з выдатным майстэрствам выканаў у той вечар саліст Д. Клімовіч. З цікавасцю слухалі мы выкананы салістам аркестра С. Забаронкам «Канцэрт для цымбал з аркестрам» Г. Вагнера. Музыка эфектная, яркая і змястоўная, у партыі цымбал адчуваецца выдатнае веданне кампазітарам магчымасцей інструмента.

Упрыгожаннем канцэрта жыновічаўцаў сталі выступленні вядомых вакалістаў М. Гулегінай і А. Рудкоўскага.

Пад чуйнай рукой дырыжора С. Сакалова (інструментоўшчыка, канцэртмайстра групы баянаў) аркестр зрабіў усё, каб як мага больш рэльефна выявіць вартасці твораў, якія выконваліся.

У аркестры заахвочваецца работа творчай моладзі, ствараецца прыдатная глеба для раскрыцця новых талентаў. Многія маладыя салісты, якія выступаюць у канцэртах жыновічаўцаў,—лаўрэаты рэспубліканскіх, міжрэспубліканскіх, усесаюзных конкурсаў. Сярод іх Л. Мурашка (габой), І. Ляўчук (флейта), А. Зубкоў (вібрафон), С. Забаронак (цымбалы), Г. Казадой і А. Цыбулька (дуэт кларнетыстаў), дуэт баяністаў С. Лясун і У. Пляшэвіч.

Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор калектыву М. Казінец у сваёй дзейнасці прытрымліваецца лепшых прынцыпаў айчыннага музычнага асветніцтва ў самым высокім значэнні гэтага слова. Пад яго кіраўніцтвам старэйшы выканаўчы калектыў рэспублікі дамогся новых поспехаў.

**М. МІЦУЛЬ,**
**старшы выкладчык Мінскага інстытута культуры**

**У Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся літаратурны канцэрт, праграму якога падрыхтавала вядомая наша чытальніца, заслужаная артыстка БССР Ганна Рыжкова. Аснову праграмы склалі творы сучасных беларускіх паэтаў. Гучала ў той вечар натхнёнае мастацкае слова, гучала і музыка: поруч з Ганнай Рыжковай выступаў інструментальны ансамбль Беларускай дзяржаўнай філармоніі «Калаж».**



Чытае заслужаная артыстка БССР Г. Рыжкова.
Фота Ул. КРУКА

## НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ

# НАПОЎНІЦЬ ВОБРАЗ ПАЧУЦЦЁМ

**Расказваем пра салістаў беларускага балета Інесу ДУШКЕВІЧ і Аляксандра КУРКОВА**

ДЗЕСЯЦЬ гадоў працы ў тэатры —тэрмін немалы для акцёра, неабходны і дастатковы для станаўлення і самавыяўлення. А ў жыцці артыстаў балета гэты перыяд яшчэ больш значны, бо складае амаль палову ўсяго сцэнічнага шляху артыста.

Шлях на сцэну ў балеце ўвогуле адзін: спачатку — восем гадоў спасціжэння азоў і школы класічнага танца ў харэаграфічным вучылішчы, затым—тэатр, дзе вучоба майстэрству доўжыцца на працягу ўсяго творчага жыцця артыста.

Прадаўжаецца сёння яна і для салістаў Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларускай ССР Інесы Душкевіч і Аляксандра Куркова.

Гэты дуэт ужо добра знаёмы аматарам балета ў нашай рэспубліцы. А ўвесну 1984 года, як вядома, артысты сталі лаўрэатамі V Усесаюзнага конкурсу балетмайстраў і артыстаў балета ў Маскве. На конкурсе І. Душкевіч і А. Куркоў выканалі два класічныя па-дэ-дэ з балета «Дон Кіхот» Л. Мінкуса і «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага, дуэт з балета «Кармэн-сюіта» Ж. Бізэ—Р. Шчадрына (пастаноўка В. Елізар'ева) і мініяцюру «Памяці дзекабрыстаў» на музыку Г. Свірыдава (пастаноўка Ю. Траяна). Вось як было ацэнена выступленне дуэта з Беларусі часопісам «Советский балет».

Пра І. Душкевіч: «...У мініяцюры «Памяці дзекабрыстаў» у касцюме і прычосцы пушкінскіх часоў, пяшчотная і паэтычная балерына, здавалася, сышла з гравюр XIX стагоддзя. Вострым адчуваннем стылю сучаснай пластыкі, строгасцю і ўнутранай напоўненасцю запомнілася яна ў адажыо з балета «Кармэн-сюіта».

Пра А. Куркова: «...Яго выступленні ў нумары «Памяці дзекабрыстаў» і ў адажыо Хазэ і Кармэн былі цікавыя і выразныя. Яны прагучалі як эмацыянальны ўсплёск, раскрылі здольнасць танцоўшчыка ствараць напоўнены пачуццямі вобраз».

Яны танцуюць разам ужо больш за пяць гадоў. Аляксандр Куркоў з 1980 года—саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. У яго рэпертуары вядучыя партыі ў спектаклях класічнай спадчыны і ў балетах сучаснай харэаграфіі. Інеса Душкевіч пасля заканчэння ў 1977 годзе Беларускага харэаграфічнага вучылішча тры гады працавала ў кардэбалеце (амаль заўсёды неабходная ступень у лесвіцы акцёрскага майстэрства).

Першая вялікая праца І. Душкевіч—партыя Адэты-Адыліі ў балеце «Лебядзінае возера» (1981 г.). Дарэчы, даволі рэдкая з'ява—дэбют маладой балерыны ў якасці вядучай салісткі ў галоўнай партыі гэтага найскладанага класічнага ўзору харэаграфічнага мастацтва. Партыя Адэты—белага лебедзя, сімвала кахання і хараства, і Адыліі—чорнага лебедзя каварства, праслаўленая такімі прызнанымі майстрамі рускай і савецкай балетнай сцэны, як Ганна Паўлава, Тацяна Карсавіна, Галіна Уланава, Мая Плісецкая, выконваецца многімі вядучымі балерынамі свету. У рабоце артысткі над гэтай роляй, акрамя пераадолення тэхнічных цяжкасцей і задачы стварэння двух зусім кантрастных вобразаў Адэты і Адыліі, асаблівая складанасць — пазбегнуць устойлівых штампаў у выкананні і ў трактоўцы.

І калі напачатку Адэта-Адылія І. Душкевіч была, думаецца, хутчэй толькі заяўкай на сваё, самастойнае прачытанне гэтых вобразаў, то наступныя спектаклі «Лебядзінага возера» з яе ўдзелам даюць падставу сцвярджаць: балерыне гэтая работа ўдалася. Вобразы Адэты і Адыліі, надзеленыя І. Душкевіч той гамай інтанацый, што бліжэй яе таленту, атрымаліся цікавыя, маляўнічыя, эмацыянальна напоўненыя.

Асаблівая адухоўленасць і паэтычнасць танца І. Душкевіч яшчэ ў гады яе вучобы ў харэаграфічным вучылішчы дазволілі меркаваць пра яе як танцоўшчыцу ў будучым, пераважна, рамантычнага рэпертуару. Але зусім нечаканы выпадак аспрэчыў гэтае меркаванне, адкрыўшы акцёрскую шматграннасць зусім юнай яшчэ на той час балерыны. У перадвыпускным класе І. Душкевіч танцавала дуэт з другога акта балета «Жызэль» А. Адана (партнёрам быў А. Траян). Бязважкасць і лірычнасць былі ўласцівы яе Жызэлі... Праз год выпускніца І. Душкевіч падрыхтавала па-дэ-дэ з трэцяга акта балета «Баядэрка» Л. Мінкуса, па характары і па сэнсе сваім ідэнтычнае дуэту з «Жызэлі». І неспадзявана для большасці педагогаў вучылішча, якія прысутнічалі на тым праглядзе, І. Душкевіч раптам бліснула, інача́й не скажаш, у жартоўным нумары — лялечным танцы «Кейк-Уок» на музыку К. Дэбюсі!

Гэты нумар, пастаўлены Н. Младзінскай з вялікай выдумкай і густам, вельмі выразная музыка, а галоўнае — цудоўна сыграная абаяльная «лялька» Інесы літаральна ўразілі ўсіх, і з апошнім акордам аднадушнае здзіўленне і захапленне вылілася ў дружныя апладысменты педагогаў, канцэртмайстраў, навучэнцаў.

І, думаецца, наўрад ці дарэчнаю ў дачыненні да І. Душкевіч будзе гаворка пра амплуа. Сярод створаных балерынай вобразаў — мілая, кранальная Жызэль, гордая Кармэн, лёгкая, празрыстая Сільфіда і гарэзлівая Кітры, мужная закаханая Фрыгія і легкадумная зваблівая Спакусніца.

Пра А. Куркова балерына гаворыць так:

**— Саша — вельмі ўважлівы, чулы чалавек і партнёр. На рэпетыцыях нам абаім, вядома ж, бывае нялёгка, асабліва калі штосьці не так, не атрымліваецца, як таго хацелася б. І тут абаім неабходныя такт, цярпенне, спагада. І ў выніку, у спектаклі на сцэне я адчуваю сябе ўпэўнена побач з Сашам. Усесаюзны конкурс артыстаў балета стаў для нас у гэтым сэнсе своеасаблівым выпрабаваннем на трываласць. Што самае важнае і неабходнае для «творчага дабрабыту» дуэта? Узаемаразуменне, вядома ж. І адчуванне адно аднаго. А гэтаму трэба вучыцца.**

Сапраўды, артысты ў дуэце робяцца партнёрамі не толькі па руху, але і па настроі, па характары выканання. Дуэтны танец, дзе кожны з партнёраў мае ўласную пластычную і сэнсавую нагрузку, павінен быць асабліва выразным — бо ён



Аляксандр КУРКОЎ у партыі Краса («Спартак»).

**ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ**

# Праект «ПАД САКРЭТАМ»?

**Артыкулам мастацтвазнаўца Ф. Валадзько «Чалавек у «інтэр'еры» горада» (№ 41) рэдакцыя распачала гаворку аб праблемах фарміравання гарадскога асяроддзя. Яе працягам быў артыкул пісьменніка А. Казловіча «Успамінаючы сонечны зайчык...» (№ 44). Сёння ў размову ўступае дызайнер.**

З цікавасцю прачытаў артыкул Ф. Валадзько, дзе ці не ўпершыню за апошнія гады робіцца спроба закрануць комплекс праблем фарміравання гарадскога асяроддзя, разглядаючы яго не толькі ў плане ландшафту, архітэктуры, транспарту, камунікацый і гандлю, а шырэй — аналізуючы дзейнасць спецыялістаў, адказных за аблічча горада, у тым ліку дызайнера, г. зн. спецыяліста па нагляднай агітацыі, малых архітэктурных формах, дэкаратара гарадскіх вітрын і афарміцеля святаў.

Спрачацца і даказваць, што ў нас у Мінску ўсё добра, наўрад ці будуць нават у Галоўным архітэктурна-планіровачным упраўленні пры гарвыканкоме. І тут, у гэтай саліднай фірме з мноствам кабінетаў і аддзелаў, якая заклікана кіраваць і каардынаваць надзвычай складаныя сітуацыі дынамічнага паўтарамільённага горада, скажуць, бадай, што ў нас побач з дасягненнямі ёсць і пэўныя недахопы.

Каб жа толькі пэўныя!

Гаварыць пра недахопы ў эстэтычным афармленні горада можна вельмі доўга. Аднак лепш не таўчы вады ў ступе, а выявіць галоўныя праблемы і галоўныя «болевыя» кропкі гарадскога асяроддзя, выявіць прычыны, што нараджаюць гэтыя праблемы. А прычыны гэтыя, на маю думку, узніклі яшчэ ў 60-я гады. Група архітэктараў, якія сфарміравалі пасляваенны генплан Мінска, на мой погляд, памыліліся ў галоўным: гэты план ігнараваў гістарычна абумоўленую структуру горада.

Мяне могуць спытаць: а пры чым тут, уласна кажучы, генплан? Якія адносіны мае гарадское архітэктурнае асяроддзе да мастацкага афармлення горада? Самае прамое! У Мінску нагляднай агітацыяй у прамым сэнсе слова затыкаюць непрывабныя дзіркі, пакінутыя архітэктарамі ў структуры вуліцы, плошчы, сквера. Прычым не проста затыкаюць, —праяўляецца прыкметнае імкненне да манументалізацыі (чытай гіпербалізацыі) дэкаратыўных фанерных установак. Гэта, безумоўна, заганная практыка. Бо слова «манумент» азначае помнік, напамін пра гістарычныя падзеі або выдатных асоб. Для манумента характэрна грамадская значнасць, і як правіла, манументальныя творы ствараюцца з трывалых і дарагіх матэрыялаў. А ў Мінску сёння на ролю заканадаўцы ў пытаннях эстэтызацыі гарадскога асяроддзя прэтэндуе афарміцель, які па клетачках павялічвае «фанерныя» паштоўкі.

Колькасць разнастайных агітацыйных, палітычных і рэкламных афарміцельскіх стэндаў, пано, аб'ёмных установак не ідзе ні ў якае параўнанне з колькасцю скульптурных манументаў, вітражоў, мазаік, архітэктурных дэкаратыўных форм. Больш таго, назіраецца свайго роду эрозія: творы манументальнага мастацтва робяцца падобнымі на агітплакатаўскія паштоўкі з мужна стандартнымі вобразамі мантажнікаў і ітээраўцаў са штангенцыркулем у адной руцэ і кнігай ці шматком перфараванай паперы ў другой. А маляўніча расфарбаваныя шчыты—плён працы афарміцеляў—схіляюцца да манументальных памераў, да вітражна расчлянёных на трохкутнікі і кубікі фігур і твараў тых жа герояў працы. Няўдалыя з пункту гледжання эстэтыкі віды горада прыкрываюцца каляровымі плямамі, прасторавыя дэкаратыўныя кампазіцыі і ўстаноўкі запаўняюць пустэчу.

Гегемонія афарміцеля стала магчымай таму, што дызайнеры, архітэктары, мастакі-манументалісты не працуюць разам. Адна з перашкод на шляху творчага супрацоўніцтва — вузкае разуменне спецыялістамі ГалоўАПУ пытання сінтэзу мастацтваў. «Дыскрымінацыя» дызайнера чамусьці апраўдваецца спасылкай на план манументальнай прапаганды, які нібыта замацоўвае кіруючую ролю архітэктара і скульптара ў «манументалістыцы» (справа, па сутнасці, зводзіцца да ўстаноўкі таго ці іншага помніка). Але ці дастаткова сёння зрабіць звычайную архітэктурную прывязку аб'екта? Калі так, дык пра якую гарманізацыю гарадскога асяроддзя мы можам гаварыць? Без дызайнера і сапраўды тут не абысціся. Дык чаму ж тады дызайнеры запрашаюцца толькі на афармленне святаў або іншых буйных грамадскіх мерапрыемстваў? Чаму галоўны мастак горада не мае ў сваёй развітой службе уласнай вытворча-выканаўчай і праектнай базы? Чаму ўсе праблемы выканання гарадскіх заказаў звальваюцца на Мінскі мастацка-вытворчы камбінат, саматужная вытворчая база якога можа з цяжкасцю асіліць толькі тыя ж фанерныя шчыты?

Сучасны горад — рухомы, зменлівы, супярэчлівы — патрабуе новых метадаў аналізу праблем яго «інтэр'ера» і новых, значна больш аператыўных, сродкаў іх вырашэння. Натуральна, павінен існаваць орган, які б каардынаваў дзейнасць усіх спецыялістаў, што адказваюць за паўнацэннае жыццё горада ў эстэтычным асяроддзі. Тым не менш, у камісіях, аддзелах ГалоўАПУ мы не знойдзем ніводнага адказнага спецыяліста-дызайнера. Падмяняюць яго часцей за ўсё архітэктары. А чаму архітэктар не можа замяніць дызайнера, бо замяшчае ж?—чую такое пытанне. Так, замяшчае. Але — не замяняе, бо клопат дызайнера — не толькі і не столькі малыя формы гарадскога асяроддзя з пункту гледжання сузіральнай эстэтыкі, колькі стварэнне асяроддзя або ансамбля форм для зручнага жыцця ў горадзе. Дызайнер робіць акцэнт на стварэнні камфартабельнага і, безумоўна, эстэтычнага асяроддзя для чалавека, які жыве, працуе і адпачывае ў горадзе.

Не выпадкова існуе выраз «безжыццёвы горад», «нежывая вуліца», «бутафорская вуліца»... На жаль, многія праспекты і цэнтральныя вуліцы Мінска нібы нежывыя. Успомнім дыскусіі па Старому і Новаму Арбату ў Маскве. Мы ў Мінску таксама сутыкаемся з падобнай праблемай.

## *Чалавек у «інтэр'еры» горада*

Жыццё горада асабліва ярка праяўляецца на галоўнай вуліцы. У нашым горадзе цэнтр, калі можна так сказаць, мігруе. Спачатку, на маёй памяці, гэта была вуліца Няміга, потым—частка Ленінскага праспекта. А зараз пэўныя функцыі цэнтра горада выконвае праспект Машэрава. І, між іншым, як зрэагавалі транспартныя службы горада на гэта? Ніяк! З праспекта Машэрава складана дабрацца ў любы іншы раён горада. Складана нават перайсці Свіслач. Ды і сам ансамбль праспекта яшчэ не сфарміраваны, вялікая пустка паміж Палацам спорту і агароджай будучай станцыі метро «Няміга» сяк-так была прыхавана «высокамастацкім» панно.

На жаль, грамадскасць амаль не ўдзельнічае ў вырашэнні горадабудаўнічых пытанняў. Здаецца, што гэтым займаецца вузкае кола архітэктараў, кроўна зацікаўленых у тым, каб «прабіць» свой праект. Адзінаццаць гадоў назад нашы дызайнеры выступілі з праектнай прапановай «Добраўпарадкаванне цэнтра Мінска». У час яе абмеркавання кіраўніцтву ГалоўАПУ было зададзена пытанне: што яно само думае аб праекце забудовы Нямігі. У адказ прагучала: «Ён каштаваў надта дорага, каб цяпер мы маглі адмовіцца ад яго рэалізацыі, нават добра разумеючы яго недасканаласць...»

Так быў вырашаны лёс старой Нямігі: «гонар мундзіра» аказаўся вышэй за грамадскі інтарэс.

Можна прывесці больш блізкі па часе прыклад. На Кастрычніцкай плошчы нешта будуюць—кажуць, Палац Рэспублікі. Хто ведае, як будзе выглядаць гэты палац, плошча, увогуле цэнтр горада пасля заканчэння будаўніцтва? Прынцып галоснасці тут зноў праігнараваны.

Старая Няміга знікла, а новая ўжо спараджае праблемы. Скажам, бетонна-прэтэнцыёзныя аграмадзіны з наіўнымі шпілямі ў стылі «неа-неагатычнага псеўдаканструктывізму» (праект Мусінскага) суседнічаюць з бліскучым па архітэктуры помнікам XVII стагоддзя Петрапаўлаўскай царквой.

І ўсё ж гістарычны пласт горада-соцыуму жыве, нягледзячы на шматлікія спробы «клапатлівых» кан'юнктуршчыкаў знесці ўсё, што толькі магчыма. Раён Верхняга горада, Траецкага прадмесця, вуліцы Нямігі і праспекта Машэрава паступова становяцца гісторыка-культурным цэнтрам нашага старажытнага горада. Ідэя згаданай ужо намі праектнай прапановы дызайнераў 1975 года не прапала і цяпер рэалізуецца, праўда, у іншых аўтарскіх калектывах. Адсюль можна зрабіць па крайняй меры адзін вывад—у нас у Мінску ёсць людзі, якія ўмеюць не толькі паспяхова аналізаваць складаную сітуацыю горада, але і прапанаваць шэраг даволі канкрэтных, канструктыўных і, безумоўна, карысных ідэй.

Прагноз будучага развіцця горада—калектыўны па форме —можа быць паспяховым толькі пры шырокім прыцягненні гісторыкаў, дызайнераў, сацыёлагаў, псіхолагаў. І прагноз гэты павінен стварацца ў форме творчага рабочага семінара з абавязковым праектным «выхадам», а не ў выглядзе тлумачальнай запіскі да прыгладжанага генплана горада. Праблема стварэння жывога гарадскога асяроддзя не здымецца сама сабою, калі не пачаць разблытваць ужо цяпер вузлы праблем у «крытычных» пунктах горада. Менавіта таму, менавіта цяпер, у час важных сацыяльных змен і мабілізуючых партыйных дакументаў, неабходна тэрмінова арганізаваць каардынацыйны рабочы гарадскі орган, задачай якога павінна быць распрацоўка рабочых прапаноў па перспектыўным і аператыўным, але абавязкова комплексным праектаванні і стварэнні гарадскога асяроддзя. Каб горад быў жывым.

**Л. ТАЛБУЗІН,**
**мастак-дызайнер,**
**старшы выкладчык БДТМІ**

# НОБЕЛЕЎСКІ ЛАЎРЭАТ 1986 ГОДА

16 кастрычніка г. г. у Стакгольме а 13 гадзіне паводле мясцовага часу сакратар Шведскай акадэміі Ларс Юленстэн урачыста абвясціў імя лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры за 1986 год. Хто ж прэтэндаваў сёлета на гэтую, бадай, самую прэстыжную ў свеце літаратурную ўзнагароду? Сярод кандыдатаў называлася французская пісьменніца Маргэрыт Юрсэнар. Дарэчы, пачынаючы з 1901 года, сярод 82 лаўрэатаў прэміі было толькі 6 жанчын. Ніводнага разу за гісторыю існавання прэміі не ўшаноўваліся прадстаўнікі Афрыкі, і меркавалася, што сёлета гэтая традыцыя парушыцца — у спісах прэтэндэнтаў прысутнічалі нігерыйцы Ўоле Шоінка і Чынуа Ачэбэ, а таксама прадстаўнікі ПАР — Нэйдын Гордымэр, Эндру Брынк і Брайтэн Брайтэнбрак. Наяўнасць сярод членаў акадэміі сінолага давала падставы спадзявацца, што лаўрэатам упершыню стане кітайскі літаратар. І, як заўсёды, сярод прэтэндэнтаў хапала еўрапейцаў — Грэм Грын, Гюнтэр Грас і іншыя.

І вось выбар акадэміі абвешчаны — лаўрэатам стаў нігерыйскі драматург, раманіст, паэт і літаратурны крытык Ўоле Шоінка. Такім чынам, упершыню гэтая прэмія дасталася афрыканцу, і ўвогуле прадстаўніку чорнай расы. Паводле афіцыйнай матывацыі акадэміі, прэмія прысуджана «за яго творчасць, якая разгортвае ў шырокай культурнай перспектыве, узбагачанай паэтычным гучаннем, драматычны спектакль чалавечага існавання».

Ў. Шоінка, які прэтэндаваў на Нобелеўскую прэмію пачынаючы з 1974 года, лічыцца яскравым прадстаўніком сучаснай афрыканскай культуры, найбуйнейшым англамоўным пісьменнікам Афрыкі. Нарадзіўся Ўоле Шоінка (поўнае імя — Акінуандэ Олуўоле Шоінка) у 1934 годзе ў горадзе Абэокута на паўднёвым захадзе Нігерыі ў буржуазнай сям'і. Там, у жывой этнакультурнай стыхіі народа ёруба, прайшло яго дзяцінства. У 1952 годзе ён паступіў ва універсітэцкі коледж у Ібадане, горадзе на паўднёвым захадзе Нігерыі, важным асяродку нацыянальнай нігерыйскай інтэлігенцыі. Праз два гады ён пераязджае ў Вялікабрытанію і вучыцца (1954—1957) ва універсітэце ў Лідсе на аддзяленні англійскай філалогіі, дзе пазней атрымлівае ступень доктара. Захапляецца тэатральным мастацтвам і, перасяліўшыся ў 1957 годзе ў Лондан, працуе ў адным са сталічных драмтэатраў. У 1960 годзе вяртаецца ў Нігерыю, каб вывучаць афрыканскае драматычнае мастацтва. Пад час грамадзянскай вайны 1967—1970 гг. праяўляе актыўную палітычную заангажаванасць, выступае ў друку з артыкуламі, дзе заклікае да нацыянальнага замірэння. У 1967 годзе абвінавачваецца ў супрацоўніцтве з паўстанцамі Біяфры і праводзіць 22 месяцы ў турме як палітзняволены. У 1969 годзе выходзіць з турмы, працуе дырэктарам драматычнай школы пры Ібаданскім універсітэце, пасля рэдагуе часопіс «Транзішн», што выходзіць у Акры (Гана). З 1975 года — прафесар параўнаўчага літаратуразнаўства. Чытаў лекцыі ў Кембрыджы, Шэфілдзе, Ейлі. Ў. Шоінка — ініцыятар стварэння Саюза пісьменнікаў афрыканскіх народаў.

Творчасць Ў. Шоінкі вызначаецца плённасцю і разнастайнасцю. Ён выступае амаль ва ўсіх літаратурных формах, у яго даробку — 21 п'еса, 2 раманы, 3 зборнікі паэзіі, кніга эсэістыкі і літаратурнай крытыкі, 3 кінасцэнарыі. Свой творчы шлях Ў. Шоінка распачаў у Лондане, дзе напісаў і паставіў свае першыя п'есы «Леў і перлінка» і «Насельнікі дрыгвы», у якіх выяўляецца пратэст супраць аджылага жыццёвага ладу, высмейваецца сляпое наследаванне заходняй цывілізацыі. У першым сваім рамане «Інтэрпрэтатары» (1965, выйшаў у перакладзе на рускую мову ў 1970 г.) Ў. Шоінка выкрывае карупцыю ў чыноўніцкім апараце, крытыкуе крайнія формы афрыканскага нацыяналізму. У зняволенні (1967—1969 гг.) Шоінка пакрыёма піша сваю самую вострую і балючую кнігу-раман «Чалавек памёр» (выйшла ў Нью-Йорку ў 1972 годзе). Кнігу склалі разважанні пра вайну і чалавечую годнасць, гутаркі са зняволенымі, з вартаўнікамі, запісы допытаў.

У адным са сваіх першых інтэрв'ю новы лаўрэат Нобелеўскай прэміі Ў. Шоінка сказаў, што яго прэмія — узнагарода ўсёй афрыканскай літаратуры, усёй афрыканскай культурнай традыцыі, спадкаемцам і прадстаўніком якой ён з'яўляецца.

Праз дзень пасля паведамлення аб прысуджэнні Ўоле Шоінку Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры за 1986 год ён быў абвешчаны нацыянальным героем Нігерыі.

**Сяргей ШУПА**

ВІНШУЕМ

# УНІВЕРСАЛЬНЫ І МАГУТНЫ ТАЛЕНТ

## АКАДЭМІКУ Д. С. ЛІХАЧОВУ — 80

«...Новалацінская літаратура значна садзейнічала кантактам народаў і краін у галіне літаратуры. Новалацінская паэзія Беларусі і Літвы далучала беларускі народ да літаратурнай культуры Еўропы і стварыла фундамент для наступнага актыўнага ўздзеяння беларускай літаратурнай культуры на рускую літаратуру ў другой палове XVII ст. ...»

«...Я надзвычай рады выхаду «Зубра». ...Гэта дзівосная паэма, якая разбурвае ўсе нашы ўяўленні пра заканамернасці гісторыка-літаратурнага працэсу. Вось што значыць геній аўтара!..»

Гэтыя цытаты з лістоў, дасланых у наш акадэмічны інстытут літаратуры выдатным савецкім вучоным, акадэмікам Дзмітрыем Сяргеевічам Ліхачовым. Прыгадваюцца і навуковыя чытанні па гісторыі Старажытнай Русі і Беларусі, што адбыліся 18 — 20 кастрычніка 1976 года ў Мінску. Яны былі арганізаваны Інстытутам рускай літаратуры (Пушкінскі дом) АН СССР і Інстытутам літаратуры імя Я. Купалы АН БССР. На гэтых чытаннях Д. С. Ліхачоў узначальваў групу вучоных Пушкінскага дома.

Мне запомнілася, як пасля наведвання музеяў у Мінску, паездак у Мір і Нясвіж Дзмітрый Сяргеевіч гаварыў аб неабходнасці паскарэння рэстаўрацыйных работ, паляпшэння музейнай справы ў Беларусі, што трэба не трымаць таленавітыя творы старажытнабеларускага мастацтва ў музейных загашніках, а паказваць свету і актыўней прапагандаваць. У сваіх працах Дзмітрый Сяргеевіч нярэдка звяртаецца да беларускага матэрыялу. Напрыклад, у «Нататках пра рускае» (М., 1984) ён гаворыць пра агульнае паходжанне Расіі, Украіны і Беларусі, пра тое, што ў стварэнні рускай культуры, побач з іншымі нацыянальнасцямі, удзельнічалі і беларусы. Хочацца працытаваць асобныя мясціны з гэтай кнігі вучонага. «Вялікі народ павінен дапамагаць малому зберагчы сябе, сваю мову, сваю культуру». «Патрыятызм — гэта самае высакароднае з пачуццяў. Гэта нават не пачуццё — гэта важнейшы бок і асабістай і грамадскай культуры духу, калі чалавек і ўвесь народ як бы падымаюцца над самім сабой, ставяць сабе звышасабістыя мэты».

Д. С. Ліхачоў і Беларусь— удзячная тэма для спецыяльнага навуковага артыкула.

Дзмітрыю Сяргеевічу, сусветна вядомаму даследчыку старажытнарускай літаратуры, гісторыку культуры, літаратуразнаўцу, тэкстолагу, мастацтвазнаўцу, крытыку, публіцысту, перакладчыку, мовазнаўцу — 80.

**Ахапіць усю навуковую і культурную дзейнасць акадэміка Ліхачова, раскрыць яго ролю і месца ў духоўным узвышэнні Расіі ды ўсёй Савецкай краіны ў кароткім слове немагчыма. Таму я буду гаварыць перш за ўсё аб сваіх уражаннях, што зыходзяць ад глыбокага знаёмства з яго працамі, лёсам, ад сустрэч з ім самім.**

**Думаю, што не памылюся, калі скажу, што навуковы і маральны аўтарытэт Ліхачова, апагей яго акадэмічна-навуковай і сусветнай чытацкай папулярнасці, незвычайнай прыцягальнай сілы ліхачоўскага слова прыпадае на апошнія два дзесяцігоддзі, на нашы часы, калі ідзе перабудова свядомасці савецкіх людзей і абнаўленне жыцця, калі нечувана ўзрасла цікавасць у савецкім грамадстве да гісторыі, уласнанацыянальнай і сусветнай, да агульначалавечых норм быцця і маральных здабыткаў чалавека.**

Імя Дзмітрыя Сяргеевіча Ліхачова, абаяльнейшага чалавека, вялікага вучонага, выдатнага арганізатара савецкай навукі (з 1954 года ён загадвае аддзелам старажытнарускай літаратуры ў Інстытуце рускай літаратуры АН СССР, доўгі час ён кіруе выданнем «Литературные памятники»), стала своеасаблівым сімвалам у гэтым паходзе савецкіх людзей, інтэлігенцыі па агульначалавечыя каштоўнасці. Менавіта часам, эпохай, павышанай цікавасцю да гісторыі, акадэмічнай школай вучоных, якую стварыў Дзмітрый Сяргеевіч, і можна растлумачыць феномен Ліхачова.

Жыццёвы лёс Д. С. Ліхачова ў многім тыповы і сапраўды павучальны. Сын інжынера, начальніка адной з пецярбургскіх электрастанцый, ён парушае сямейную традыцыю — быць электрыкам, хоць з гэтай прафесіяй звязалі свой лёс усе яго браты,— і паступае ва універсітэт. Ён закончыў яго адначасова па двух аддзяленнях — рамана-германскім і славяна-рускім.

Каля 50 гадоў правёў Дзмітрый Сяргеевіч у Пушкінскім доме, хоць ён прынёс яму не толькі шмат радасцей, але і нямала трывог і засмучэнняў. Яго не раз абвінавачвалі ў адрыве ад праблем жыцця. І гэта ў той час, калі работы Ліхачова сталі ўжо даволі вядомыя ў навуковым свеце. Менавіта тэксталагічная карпатлівая праца давала магчымасць вучонаму адвесці душу, пранікнуць у загадкавую стылістыку аўтара «Слова аб палку Ігаравым», па-новаму зразумець творчасць летапісцаў, пісьменнікаў, мастакоў мінулага, іх рытміку, гумар, вобразную сістэму і стварыць праўдзівы малюнак цэласнага і непаўторнага мастацкага свету Старажытнай Русі.

А колькі ён зрабіў і робіць сёння, каб абараніць гуманітарныя навукі ў век НТР, каб паказаць грамадскую адказнасць літаратуразнаўства! Сваімі працамі, універсальным і магутным талентам, энцыклапедычным розумам, патрыятычнай пазіцыяй, абаяльнасцю інтэлігента, уменнем тактоўна і, калі трэба, смела пайсці насуперак волі чыноўнікаў-бюракратаў (так было, калі Ліхачову ўдалося ўратаваць старажытны цэнтр Ноўгарада ад забудовы сучаснымі каробкамі, калі яму ўдалося адхіліць архімодны праект рэканструкцыі Неўскага праспекта, калі ён разам з групай пісьменнікаў выступіў супраць неабгрунтаванага перайменавання гарадоў, вуліц і г. д.) — усім гэтым акадэмік Ліхачоў заслужыў любоў і павагу савецкіх людзей.

**Віктар ДАРАШКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# БАЦЬКОЎСКІ ДОМ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4)

**— Што не спадабалася!**

— Дзеўкі ўсе нафарбаваныя, напудраныя... Я люблю ля возера пасядзець. Іду з работы, захацеў — пакупаўся. Гэтай вясной дзве бочкі бярозавіку нанасіў. Дзе я яго ў горадзе пап'ю? Хіба там такі прадаюць, як я сам зраблю? Я калі да сястры ездзіў, прачнуўся на досвітку, паглядзеў у акно: там і неба не такое, як з акна маёй хаты... Мяне сілай у горад не загоніш. Не хачу... Горад — як свята: прыехаў, пабыў і назад...

Віктар **Шыловіч,** слесар, 30 гадоў:

— Тут нарадзіўся, вырас...— Памаўчаў.— Жонку сабе знайшоў, сын у нас... Ён таксама тут нарадзіўся... Як не будзе падабацца тут, калі ўсё сваё, роднае? Куды паеду, дык дачакацца не магу, каб хутчэй вярнуцца. Як бы добра дзе ні было, а дома адчуваеш сябе вальней, больш упэўнена... Пасля арміі хлопцы цягнулі ў горад. Не хапіла рашучасці... Трэба было кінуць сваё, прывыкаць да чужога, а я не смелы чалавек, не бойкі. У армію калгас праводзіў нас урачыста: у клубе, з музыкай, падарункі ўручалі, мне імянны гадзіннік, і цяпер выдатна ідзе. Пісьмы ў часць пісалі... Дэмабілізаваўся, прыехаў, старшыня раней за суседскіх хлопцаў у хату пастукаўся: «Месяц адгуляеш і прыходзь... Чакаем». Я тыдзень адгуляў і пайшоў у майстэрню. Тады лета было дажджлівае, жыта з вады падымалі. Як ты будзеш сядзець дома, калі ўсе ў полі? Бацька ўчарнелы на парозе начы дадому прыходзіў, моцна перажываў: ураджай долу сыплецца. Так я дома і застаўся...

**— Ёсць у вас яшчэ браты і сёстры!**

— Брат ёсць. Меншы. Нядаўна з арміі прыйшоў. Шафёрам працуе ў калгасе. Новую машыну яшчэ не атрымаў, але старшыня паабяцаў: здолее на старэнькім самазвале сябе паказаць — атрымае новую машыну. У парадку чаргі, вядома, таму што паперадзе яго яшчэ некалькі хлопцаў чакаюць. І на дабітым самазвале можна больш за ўсіх збожжа перавезці, калі вельмі захацець. У жніво ён усіх абагнаў, нават вопытных вадзіцеляў.

**— Не думае ўцякаць з вёскі!**

— Не... Бацька — механізатар... І ў нас цяга да тэхнікі з маленства. Бацька рады, што мы дома, што раніцай утрох ідзём на работу: «Свая трактарная брыгада...»

Галіна **Літвіновіч,** загадчыца малочнатаварнай фермы, 25 гадоў:

— У нас у сям'і чацвёра. Усе робяць у вёсцы. Мама — даярка, я з ёй на ферму хадзіла, памагала. Можна сказаць, што з дзяцінства да кароў прывучана... Паступала адразу пасля школы ў музычнае вучылішча. Не прайшла па конкурсе, вярнулася дамоў. Маме ўжо год заставалася да пенсіі. Яна кажа, што старшыня ў нас быў, сказаў, што калі ў Галі з паступленнем у вучылішча не атрымаецца, дык хай зойдзе да яго. Я пайшла да яго. Ён угаварыў паехаць за кошт калгаса ў тэхнікум. Доўга ён мяне ўгаворваў, мне маміна работа падабалася, я сама ўжо наважылася, што пайду кудынебудзь у жывёлагадоўлю... Скончыла тэхнікум, вярнулася ў калгас. Мяне адразу загадчыцай фермы паставілі. Было цікава паспрабаваць, што ў мяне атрымаецца. За год падабрала сабе маладых дзяўчат. У нас цяпер камсамольска-маладзёжная ферма. Усе маладыя, нам падабаецца... У кожнага свой погляд на вёску. Аднаму тут гразь і бруд, а другому — родная мясціна, бацькоўскі куток. У нас, праўда, ферма старая, гэта не комплекс, дзе людзі ходзяць у белых халатах і кнопкі націскаюць, але ўмовы для работы неблагія. Корм па канвееры падаецца, даенне аўтаматычнае, гноетранспарцёр. Ёсць падменныя даяркі. Скора ў нас і вёска будзе добраўпарадкавана. Прыемна, што гэта сваімі рукамі робіш. І чаму я павінна зайздросціць гарадскім?

Васіль **Ханяк,** трактарыст, 25 гадоў:

— Механізатары ў нас ахвотна застаюцца, штогод прыходзяць два-тры чалавекі. Пасля школы ідуць, пасля арміі — адна моладзь. Мне падабаецца мая спецыяльнасць. Для работы на новых трактарах, якія ў нас ёсць, трэба ведаць фізіку, матэматыку, нават электроніку. У нас цяпер складаная, сучасная тэхніка. Жыллё, спецыяльнасць — гэта першае, што трэба чалавеку. Я, вядома, ніколі б не згадзіўся быць «куды пашлюць», на розных работах, а трактар — люблю. Вясной выедзеш у поле, баразну перавернеш — яна пахне карэннем, яшчэ чымсьці... чымсьці жывым... Люблю... Многія скардзяцца, што цяжка ў вёсцы. А на БАМе лёгка? Класці шпалы ў трыццаціградусны мароз лёгка? Я нарадзіўся ў вёсцы... І хачу тут жыць... І буду тут жыць...

Надзея **Шчарбак,** дырэктар музычнай школы, 24 гады:

— Пасля сканчэння кансерваторыі ў Мінску ў мяне накіраванне ў райцэнтр. Я прыехала, пачула, што адкрываюць музычную школу ў адным калгасе і пайшла прасіць, каб мяне туды паслалі.

**— Што вас прымусіла так паступіць!**

— Я падумала, што там будзе цікавей, таму што школа толькі адкрываецца. У райцэнтры школа музычная даўно, там свой парадак, не ўсё мне там падабалася, а тут я парашыла зрабіць, як я хачу, як разумею. Дзе б у мяне яшчэ была такая магчымасць? Мне проста пашанцавала, я лічу.

**— Атрымліваецца!**

— Нешта атрымліваецца. Дзеці ахвотна ідуць, ёсць вельмі здольныя. Вельмі... Іншы раз страшна падумаць, што не прыехала б я, дык ніхто б з гэтымі дзеткамі не займаўся музыкай. Дзяўчынка адна за што ні возьмецца: флейта, баян, акардэон — на ўсіх інструментах іграе, і цудоўна іграе. Прыйшла неяк яе маці, плача: дачушка пачне дома іграць, старэйшы сын, дзесяцікласнік, бярэ ў рукі інструмент — і ў яго атрымліваецца, хоць хлопец нідзе музыцы не вучыўся. У ім прапаў музыкант. Пачынаць позна ўжо. Можа, вялікі талент загінуў. Як зразумееш гэта, на свае вочы пабачыш, хіба можна кінуць вёску? Збіраюся паступаць у аспірантуру. Тэма мая звязана з дзіцячымі харавымі песнямі. Буду завочна вучыцца. Ужо цяжка адсюль паехаць, не магу. Прывыкла да дзяцей, да школы сваёй.

**— Вы прымаеце толькі здольных дзяцей!**

— Не, усіх. Хай з яго не выйдзе музыкант, але ён ужо ніколі не выключыць радыё, калі будуць перадаваць сімфанічны канцэрт. І іншае: дзеці цяпер не гойсаюць без справы па вуліцах, у іх ёсць занятак, ім ужо не хапае часу. Вельмі вялікая праблема вырашана. Я вам прыклад прывяду. Тут жыве сям'я заатэхніка, ён вясковы, а жонка — гарадская. І яны меркавалі пераехаць у райцэнтр, каб сын вучыўся музыцы. Тым годам якраз у вёсцы адкрылася музычная школа, і яны засталіся.

**— А вы самі адкуль родам!**

— У горадзе расла.

**— Як прывыкаеце да вясковага жыцця!**

— Калі вучылася ў кансерваторыі, я штовечар на канцэрты бегала. Вядома, іншы рытм быў. Але ўсё ад самога чалавека залежыць... Мне і тут сутак малавата, увесь час занятая. Часта бываю ў Мінску на канцэртах, у тэатры, сачу за ўсім. Астатні час, вядома, забірае школа, дзеці... Тут ёсць маладыя настаўнікі. Жывём мы вельмі цікава. Збіраемся разам. У нас цудоўная фанатэка, вечарамі слухаем музыку. Прырода ў нас цудоўная. Гэта робіць уплыў на чалавека. Быццам чысцейшым робішся. Гэта я магу сказаць дакладна. Неяк спакайней тут, больш высакародна жывеш, ці што, разумееце, без гэтай паспешлівасці. Але, менавіта без гэтай гарадской паспешлівасці. Ці шчаслівая я? Але... Я шчаслівая... Столькі ў мяне было магчымасцей паехаць адсюль, але я не ўцякаю...

Аляксандр **Няхай,** токар, 31 год:

— Тры гады мучыўся ў горадзе на чужых кватэрах. І яшчэ дзесяць гадоў трэба было чакаць, пакуль свой куток далі б. Прыехаў да бацькоў, сустрэў на вуліцы старшыню, ён кажа: «Вяртайся назад, токары нам патрэбны». «А кватэра,— пытаюся,— будзе?» «Ты мне працоўную кніжку на стол, я табе ключы ў рукі». Начальнік цэха не адпускаў: «Божа, куды ён едзе! У вёску...» А сам таксама з вёскі. У нашым цэху чалавек пяць гарадскіх, астатнія ж усе з вёсак. А вось у кожнага ў галаве асела, што ў горадзе работа лягчэйшая, чысцейшая, наогул, што ў горадзе лепш. Ці, можа, пахваліцца хочуць: я гарадскі... Калі б я не захацеў, дык ніхто б мяне сюды, у вёску, не паслаў. Сам ведаю такіх, што па дваццаць гадоў на чужых кватэрах жывуць, абы толькі ў горадзе, хоць бы як, але зачапіцца. А мне, наадварот, у вёсцы лепш. Тут твая работа лепш відаць: зрабіў ці не зрабіў, як зрабіў. На заводзе я тачыў штодня дэталі, але я ж не ведаў, хто будзе ездзіць на тым веласіпедзе — я на мотавелазаводзе рабіў. Там серыйная вытворчасць. Хто ведае, чыя дэталь, мая ці таварыша майго? А тут ты сам адказваеш за сваю работу. Прыгнаў сёння Сцяпан Кухар трактар. Я тачу дэталь і ведаю, што яна для ягонага трактара, і ён ведае, хто рамантуе яго трактар. Паспрабуй зрабі не так, як сабе, кепска зрабі! Як пасля ў вочы глядзець гэтаму чалавеку? А ты з ім кожны дзень страчаешся. У вёсцы ты ўвесь, як на далоні, нікуды не схаваешся. Тут усе бачаць мой асабісты вынік, маю асабістую адказнасць... Жонка — лепшая даярка ў калгасе і лепшы аператар машыннага даення ў раёне. Яна адсюль нікуды не хоча. Чацвёра дзяцей у нас. Двое тут нарадзіліся. Яна з малых гадоў з маткаю на ферме, памагала. Рана ўставаць трэба, цяжка, а для яе гэта найлепшая работа. Я ж кажу, чалавек з малых гадоў прывучаны... Так і я... Калгас наш заможны. Я як сюды прыехаў, больш паездзіў, чым калі ў горадзе жыў. У Кіеве быў, у Брэсце, у Маскве, у Вільнюсе... Калгас дае аўтобус для экскурсіі, грошы. Толькі тваё жаданне. У цырк нядаўна дзяцей вазілі. І вы бачылі нашу вёску: гарадскі пасёлак... Не мы адны вярнуліся... Вельмі многія вяртаюцца. Напрыклад, у нашым доме ёсць адна сям'я. Жылі і працавалі ў Мінску. Вярнуліся ў вёску. Ён шафёр, яна — даярка. І наогул дык вось, да прыкладу: сем'яў пяцьшэсць ужо вярнулася. Чакаюцца яшчэ...

СТАРОНКІ УСПАМІНАЎ

Заір АЗГУР

# У СВЯТЛЕ МАТЧЫНАГА ПОЗІРКУ

ДЗЕ ЎЗЯЦЬ мне такія словы, каб я змог перадаць маё ўзрушанае захапленне гэтай жанчынай?! Купалава маці... Бянігда Іванаўна... Перш-наперш вы бачылі дзівосны прамень яе позірку. І адразу ж здагадваліся: перад вамі чалавек чулы, ветлівы, гасцінны... Не, вы адчувалі і нешта большае. Я сказаў бы так: насустрач да вас ішла сапраўдная маці. Добрая ўсмешка яе вуснаў нібы папярэджвала вас, што жанчына не будзе надакучваць вам сваімі размовамі, але калі вы нечым пацікавіцеся, дык знойдзеце ў ёй шчырага суразмоўніка. Яна пачастуе вас, толькі не спяшайцеся — не адмаўляйцеся і не кажыце «дзякуй!», а спачатку пакаштуйце яе дранікаў, яе мачанкі, яе грыбкоў. Ах, вы да Івана Дамінікавіча! Калі ласка...

— Яначка, да цябе госцік...

І вось вы ўжо гутарыце з гаспадаром тае ўтульнае хаціны, што найшла прытулак паблізу Свіслачы, каля вядомай у Мінску лазні Паплаўскага, у засені зялёнай лістоты. Першы раз мне здалося, што дом Купалы абступілі самыя прыгожыя дрэвы нашай Беларусі, што яны адначасова квітнеюць і кружаць па садзе духмянае воблака водару. Які аксамітавы бэз! І гэтая пяшчота яблынь у кветках. Шыпшына пунсовая. І гронкі белага суквецця рабін. А мо гэта чаромха?.. Не паспяваеш за думкай, за назіраннямі, бо адразу засяроджваешся на ім — на паэце. Нетаропкі чалавек, якому зусім не ўласціва мітусня. А вочы — жывыя, дапытлівыя, уважлівыя. Дзе ты бачыў такія? Дык жа толькі што цябе сустрэла Бянігда Іванаўна, і водбліск яе позірку — у вачах Івана Дамінікавіча. Прынамсі, такое ўражанне ў мяне з'явілася адразу, ледзь я пачаў ляпіць скульптурны партрэт паэта. Мяне ўразіў сціплы схіл галавы, якім Іван Дамінікавіч вітаўся са мной. Бо зноў жа менавіта такім схілам галавы сустракала мяне Бянігда Іванаўна.

Для работы мне спатрэбіўся станок пад гліну. Пачуўшы гэта, клапатлівая Бянігда Іванаўна падказала: пастаўце адну табурэтку на другую, во і будзе вам патрэбны «станок».

Першы сеанс я правёў вельмі хвалюючыся, бо трэба было дасягнуць агульнага падабенства абрысаў галавы да галавы «самога» Янкі Купалы. Ён быў для мяне тады «сам» Купала, ды такім — сапраўды вялікім чалавекам — і застаўся назаўсёды. Стаўлюся да яго з найвялікшай пашанай. Бывае, такая пашана перашкаджае мастаку спакойна і ўпэўнена перадаваць рэальныя рысы, бо ты хвалюешся і хочаш, каб твая пашана адбівалася на тваім мастацкім творы.

Некалькі гадзін стаяў я каля «станка». Мяне клікалі падсілкавацца, запрашалі на «перакур», прапаноўвалі газеты, якія прынёс паштальён. Я адыходзіў ад «станка» і зноў вяртаўся да сваёй работы. Іван Дамінікавіч ведаў, што сёння — толькі першы сеанс. Бянігда Іванаўна цярпліва чакала, калі я спынюся і не буду «завіхацца» каля «станка». Я ж чамусьці больш за ўсё баяўся яе прысуду. Першага. Што яна скажа, пабачыўшы «сына», чыё аблічча прабіваецца ў гліне?

Яна пераступіла парог пакойчыка амаль на дыбачках. Склала рукі на грудзях. Паглядзела. І штосьці светлае і кранутае вільгаццю ўспыхнула ў яе вачах. Замілаванне! Так маці глядзіць на любага сына. І мяне гэта вельмі ўзрадавала. Яна памаўчала, нешта падумала і ціха (каб не пачуў Іван Дамінікавіч) прамовіла:

— Падобны...

Ніякавата прызнавацца, але іншых яе слоў я не запомніў, бо ад прызнання падабенства, пачутага ад маці паэта, у мяне, мабыць, галава пайшла кругам. Дзіва што: ухваляе маці Івана Дамінікавіча. Пасля першага сеанса!

Сеансаў было сем. Мяне ўжо прымалі як члена вялікай сям'і, што збіралася ў гэтым гасцінным доме. І за сталом было «маё» месца. І ў гаворках я прымаў удзел, устаўляў сваё слова, калі пачыналі шумець маладыя тады Уладзімір Дубоўка, Андрэй Александровіч, Міхась Чарот, Анатоль Вольны. Гаварыліся часам амаль праграмныя прамовы — пра культуру вершаскладання, пра вобразную стыхію паэзіі, пра жанравае багацце, пра нацыянальныя традыцыі. Асабліва горача абмяркоўвалася пытанне: «Чаго чакае ад літаратуры народ?». Мне здавалася, што Янка Купала больш прыслухоўваецца, чым спрачаецца, прыглядаецца да маладзейшых калег, нешта абдумвае. Зрэдку ён выказваў нешта рашуча, а то ўсё больш памяркоўна.

Аднойчы пасля такой вячэры Бянігда Іванаўна, быццам гаворачы самой сабе, сказала, каб я пачуў:

— Яначка ў вас выглядае такім спакойным. Гэта — праўда, ён такім бывае... Але калі вось гэтак нагаворыцца, наспрачаецца, дык ён ноч не спіць... Уздыхае... курыць... на ганак выходзіць... Надта яго непакоіць, што хлопцы ўсе па гуртках збіраюцца, розныя там групы ды арганізацыі ствараюць. Кажа: літаратуру ж рабіць варта талакой. Па-народнаму. Варожасць паміж таленавітымі людзьмі вельмі крыўдзіць яго. Яны нагавораць рознае, нагалосяць, нашумяць, а ён — не спіць... Быццам бацька ён ім, а яны — непаслухмяныя крыкуны...

Мне тады думалася, што за гэтай матчынай трывогай хаваецца звычайнае пачуццё жанчыны, уважлівай да сына. Пазней, аднак, П. Броўка з П. Глебкам пацвердзілі справядлівасць тых слоў Бянігды Іванаўны. Сапраўды, аказваецца, за літаратурнымі спрэчкамі-дыспутамі першых паслярэвалюцыйных гадоў, калі ўзніклі «Узвышша», «Маладняк», «Камуна», «Полымя», а іх удзельнікі вінавацілі адзін аднаго ў розных грахах, Я. Купала адчуваў і перажываў балюча драматызм сутыкнення паміж так званымі наватарамі і традыцыяналістамі, паміж крыклівымі дылетантамі і вопытнымі знаўцамі літаратуры. Першай адчула ягоны боль — маці.

На адным з сеансаў пачуў я аднойчы задуменнае слова самога Івана Дамінікавіча: «Усё нешта шукаюць, шукаюць... Што шукаць, калі ад цябе, ад усіх нас, чакаюць аднаго — праўдзівае мастацкае слова...» Я тады набраўся смеласці і пакпіў: «Дык жа на тое сярод іх і Шукайла бадзяецца...» (Быў такі літаратурны дзеяч, Шукайла, у «Камуне»). Дзядзька Янка ўсміхнуўся ў адказ, але не стаў паглыбляцца ў размову.

Здаецца, пасля чацвёртага сеанса я рашыў паклікаць Бянігду Іванаўну зноў і спытаць яе думку адносна таго, што ў мяне атрымліваецца. Завітаў да яе ў пакой. У акулярах яна чытала кнігу. Зазірнуў — што? «Сымона-музыку». Яна ўсміхнулася, пагладзіла старонку і прамовіла: «А хораша піша Канстанцін Міхайлавіч...» — і ў гэтым імені Якуба Коласа я адчуў асаблівую павагу Купалавай маці да яго.

Бянігда Іванаўна зноў глядзела на партрэт свайго сына. Нешта мроілася, нешта думалася ёй. Не адразу яна звярнулася да мяне. Я чакаў.

— Вы яго такім рабіце, які ён сядзіць за сталом і піша... Тады яго ніхто не бачыць, толькі я цішком, бывае, зазірну... Вочы добрыя атрымаліся. Яны ў яго такія і ёсць. І не толькі вочы, у Янычкі сэрца добрае. Ён жа і гасцей заўжды

ПАДЗЕІ І ДАТЫ

Алег ЛОЙКА

# НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

## ДА 80-ГОДДЗЯ «НАШАЙ НІВЫ»

У ЛІПЕНІ 1914 года, калі ўжо восем год «Наша Ніва» шчыраваннем сваім усё не пераставала здзіўляць не толькі сваіх прыхільнікаў, сярод якіх быў Максім Горкі, але і нядобразычліўцаў, Максім Багдановіч у артыкуле «Беларускае адраджэнне», які спецыяльна адрасаваўся ім да рускага чытача, пісаў, маючы на ўвазе «Нашу Ніву» — «сціплую», паводле яго слоў, штотыднёвую беларускую газету памерам у адзін друкаваны аркуш, што «яна прабіла сабе дарогу ў самыя глухія куткі Беларусі, у самыя цёмныя слаі насельніцтва. Для многіх тысяч людзей яна з'явілася першай газетай, прачытанай імі, першай крыніцай ведаў, якая не мела афіцыйнага адбітку і была выкладзена простай і яснай мовай. Да беларускага селяніна, які зжыўся з думкаю, што ён — хам, а яго мова — хамская, «Наша Ніва» друкаваным чынам звярнулася на гэтай мове, выклікаючы ў ім тым самым павагу і да яе, і да самога сябе, абуджаючы ў ім пачуццё ўласнай годнасці. У беларускім краі, сашкамутаным нацыянальнай барацьбой, «Наша Ніва» бесперапынна напамінала аб неабходнасці паважаць правы кожнага народа, цаніць усякую культуру і, замацоўваючы свае нацыянальныя падваліны, шырока карыстацца здабыткамі культуры як польскай, так і вялікарускай і ўкраінскай...»

Максім Багдановіч быў не адзін, хто так глядзеў на «Нашу Ніву». Яшчэ ў 1912 годзе вядомы дзеяч польскага рэвалюцыйнага руху, адзін з кіраўнікоў левага, рэвалюцыйнага крыла Польскай сацыялістычнай партыі, рэдактар органаў партыі «Robotnik» («Рабочы») і «Rrzedswit» («На досвітку») Леан Васілеўскі пісаў аб ёй: «Артыкулы палітычныя, грамадскія, гаспадарчыя, інфармацыя з краю, краіны, з-за мяжы, вершы і апавяданні, анекдоты і жарты, практычныя парады — вось змест нумароў «Нашай Нівы». Усё гэта пішацца мовай простаю, зразумела і папулярна пры ўдзеле... соцень супрацоўнікаў, якія прыходзяць з народных мас або бліжэй за іншых стаяць да іх (сяляне, рабочыя, арганісты, народныя настаўнікі, інтэлігенцыя невялічкіх гарадоў). Паступова «Наша Ніва» пранікае ў найбольш глухія закуткі краю, будзіць грамадскую думку, чалавечую годнасць і народную свядомасць. «Наша Ніва» стаіць на грунце інтарэсаў працоўных, прагне для іх хлеба, зямлі і асветы, хоча пашырыць сярод іх энергічнасць, салідарнасць і імкненне вызваліцца ад усіх балячак, эканамічных і грамадскіх... Прызнаючы за беларусамі правы на самастойнае развіццё, як і за іншымі народамі, «Наша Ніва» пашырае разуменне неабходнасці для Беларусі такога ладу, які б забяспечыў развіццё беларускага народа... «Наша Ніва» часта зазначае, што, адстойваючы інтарэсы беларусаў, не пашырае нянавісці ні да кога, паважае кожную народнасць. Яна таксама выразна падкрэслівае, што беларус дужа багата можа скарыстаць з вопыту цывілізаванай працы сваіх суседзяў, што ён павінен жменяй, колькі можа ўзяць, чэрпаць асвету і навуку як з польскіх, так і з рускіх крыніц. Энергічна выступаючы ў абарону нацыянальнага самавызначэння Беларусі і беларускага народа, «Наша Ніва» не дае сябе справакаваць рускім, польскім ці літоўскім нацыяналістам, якія гавораць пра беларускі рух або з неахвотай, або з падазрэннем. І часта сапраўды варты захаплення той такт і высакародная вытрымка, з якімі выдаўцы «Нашай Нівы» ўмеюць бараніць сваю справу перад нападкамі шавіністаў».

Сёння, перагортваючы пажоўклыя ад часу, бо ўжо і 80-гадовай даўнасці падшыўкі «Нашай Нівы» мы, вядома, і сваімі словамі маглі б выкласці тое, што ў Максіма Багдановіча, тое, што ў Леана Васілеўскага: аддавочнае ім аддавочна сёння і нам. Але — ці ж аддавочна? Ці сапраўды газету, якая была самай шырокай сацыяльнай і палітычнай школай шырокіх народных мас Беларусі пачатку XX стагоддзя, мы за такую школу ў поўні прымаем, а тым больш ці бачыцца нам «Наша Ніва» як прашкола тых інтэрнацыяналістычных пачуццяў, якія выхавалі ў нас савецкі лад, партыя? Як «Наша Ніва» выхоўвала пачуцці еднасці ўсходне-славянскіх народаў, абуджала павагу ў беларуса да іншых народаў, пра тое і ў М. Багдановіча, і ў Л. Васілеўскага. Дык была «Наша Ніва» выказніцай інтарэсаў і дум народных ці не была?

Была, бо тыя, што казалі ці будуць казаць, што не была, будуць прадаўжаць груба рваць ніткі повязі часоў, уяўляючы, быццам бы перадавая нацыянальная свядомасць беларусаў з'явілася раптоўна, а не ў пераемнасці з той нашай свядомасцю, якая ішла ад Францыска Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча і ад «Нашай Нівы». Была, бо тыя, што казалі, ці будуць казаць, што не была, будуць прадаўжаць груба рваць сувязь паміж этапамі нацыянальна - вызваленчай барацьбы, ігнараваць гэтую сувязь. Была, бо не чыталі б вы сёння пра «Нашу Ніву» ў М. Багдановіча і ў Л. Васілеўскага таго, што ў першых радках гэтага артыкула прачыталі!..

«Наша Ніва» не магла быць інакшай, бо была народнай па сваёй сутнасці — ад свайго агульнадэмакратычнага і рэвалюцыйна-сацыяльнага зместу. Частка яе змястоўнасці ішла і ад ліберальнай нацыянальнай буржуазіі, як і ад сялянскага кансерватызму, патрыярхальнасці, наіву. Але тады, калі «Наша Ніва» ўзнікла, яна ўздымалася і на хвалях усенароднай расійскай рэвалюцыі 1905 — 1907 гадоў і на хвалях нацыяналізму прыгнечанай нацыі. У. І. Ленін пісаў: «У **кожным** буржуазным нацыяналізме прыгнечанай нацыі ёсць агульна-дэмакратычны змест супроць прыгнечання, і гэты вось змест мы безумоўна падтрымліваем». Такім чынам, ленінская тактыка ў нацыянальным пытанні на этапе, калі ўзнікла «Наша Ніва», была тактыкай падтрымкі нацыянальных рухаў ва ўсёй іх складанасці з вылучэннем у іх агульна-дэмакратычнага зместу. Менавіта агульна-дэмакратычным зместам «Наша Ніва» была перапоўнена цераз край, ды такім, што ён можа быць заўсёдным гонарам нацыі, а мы здавальняемся толькі тым, што прымаем з «Нашай Нівы» ад Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Алеся Гурло, Янкі Журбы, Канстанцыі Буйло, — ад пісьменнікаў рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку, штучна адрываючы іх ад ліберальна-буржуазных, творчасць якіх была не пазбаўлена часам значнага агульна-дэмакратычнага зместу.

Нашчадкі не могуць не быць удзячныя ўсім, хто быў датычны да стварэння такой выдатнай газеты, як «Наша Ніва». Зразумела, што вызначэнне заслуг асобных з іх ускладнёна перыпетыямі іх палітычных біяграфій — асабліва на рубяжы 1917—1920 гадоў. Але ж тое, што адбываецца ў біяграфіі таго ці іншага грамадскага дзеяча пасля яго акрэсленых, станоўчых учынкаў ніяк не перакрэсліваецца ў яго біяграфіі наступнымі яго непапраўнымі ўчынкамі, ніяк не выкасоўваецца з самой біяграфіі дзеяча, як не можа яно быць выкасаваным з гісторыі наогул. І пагэтаму, думаецца, зробленага для «Нашай Нівы», у «Нашай Ніве» Аляксандрам Уласавым і іншымі марна ўжо сёння не бачыць, замоўчваць ці на самую «Нашу Ніву» глядзець з-за іх як на падсудную. Звычайная паважлівасць у адносінах да людзей іншых думак, веравызнання, філасофій таго ад нас патрабуе; так неабходны для навуковага гістарызму аб'ектывізм, які б супрацьстаў буржуазнаму аб'ектывізму, таго ад нас сёння патрабуе, як і павага да вартых пашаны папярэднікаў, вышыня партыйнага погляду на ідэалагічных апанентаў. Тым больш, што прыклад вышыні адносін да папя-

не вухам слухае, а сэрцам. А яны шумяць і шумяць... Маладыя!

Бянігда Іванаўна загадала мне сесці і сама села ў крэсла. Сказала, што ў маладыя гады Янка асабліва многа пісаў. Так многа, што яна і дагэтуль дзівіцца, дзе яны падзеліся — усе тыя вершы, якія ён пісаў, калі працаваў на бровары: «Некалькі кніжак можна было б скласці!..» Я сказаў, што Янка Купала, відаць, старанна апрацоўвае, рэдагуе і перапісвае свае творы, бо ён жа надта патрабавальны мастак. Бянігда Іванаўна адказала, што вакол Мінска такія краявіды, што хоць пра кожнае дрэўца або рачулку пішы — і адразу будзе пекната і хараство. «Навошта ж пѐрапісваць? — перапытала і сама сказала: — Ды ён старанны ў мяне, уважлівы, сабе палёгкі не дае... Працуе ўсё і працуе... На досвітку эж, бывае, кладзецца...»

Вячэрнім часам сад каля Купалавага дома шапацеў лістотай, нешта светлае навяваў на думы і пачуцці, і настрой бываў тады ў мяне летуценны. Я думаў, што паэт у сваім уяўленні ў такіх абставінах лёгка і натхнёна аднаўляе перажытае некалі ім, перадуманае, знаходзіць празрыстую вобразную плынь вершаванай мовы, такой чароўнай, такой мілагучнай, такой змястоўнай. І маці яму вельмі патрэбна — як самы родны чалавек, як сама бескарыслівая і шчаслівая клапатлівасць. Жонка Уладзіслава Францаўна многае рабіла, каб паэту добра працавалася, уносіла ў побыт сям'і штосьці вясёлае, кампанейскае. Маці — Бянігда Іванаўна — нібы ўвасабляла ўстойлівы парадак жыцця ў гэтым доме, у гэтай сям'і. Матчын клопат заўсёды спрыяе такой устойлівасці, патрэбнай, відаць, некаторым талентам. Прынамсі, Я. Купалу было неабходна, каб «дом» не парушаў яго творчай гармоніі і гатоўнасці да паэтычнай дзейнасці. Гэта я адчуў тады, маладым яшчэ чалавекам, і з удзячнасцю глядзеў на Бянігду Іванаўну.

Прыгадалася мне мая маці, якая таксама тактоўна і далікатна вучыла мяне быць добрым для людзей, хоць ніякіх «упрокаў» я не заўважаў, дыдактычных прамоў ад яе не чуў. Матчына душа, калі яна побач з сынам, мабыць, сама па сабе — настаўніца. Яшчэ калі калыска малога Янкі калыхалася пад столлю ў сялянскай хаце ў Вязынцы, яна — маці — спявала яму сэрцам запаветныя песні, і з імі ён выпраўляўся ў творчы шлях, абраўшы лёс паэта.

Калі памёр бацька, Янку выпала стаць першым яе памочнікам, нават кармільцам у вялікай сям'і, і гэта яшчэ больш парадніла дзве душы — маці і сына. Як і гора: смерць адбірала ў іх родных людзей, і не адзін раз стаялі яны побач над труной, адчуваючы ледзяны холад слёз. Маці не перашкаджала яму быць «чалавекам з кнігай», які адмовіўся паўтараць жыццё свайго бацькі:

**Мне мудрасці кніжнай не даў бог пазнаці,**
**Мой бацька не мог даць раскошаў такіх,—**
**Научыўся я слоў беларускіх ад маці**
**І дум беларускіх без школы і кніг.**

**Ад самай красы маіх дзён невясёлых**
**Настаўнікам быў беларускі абшар;**
**Усходы палеткаў і гоманы ў сёлах**
**Навуку сваю мне прыносілі ў дар,—**

так засведчыў сваё «творчае паходжанне» сам паэт, ставячы маці ў шэраг першых і галоўных сваіх настаўнікаў. Праўда ж, ён араў, касіў, сек дровы, пасвіў быдла, працаваў на бровары, а ў вольную хвіліну разгортваў кнігі, каб вучыцца... І рабочыя і сяляне ў Дольным Снове, у Сёмкаве, у Яхімоўшчыне сталі першымі слухачамі вершаў, якія склаў сэрцам пад уражаннямі рэальнага жыцця Янка Купала.

**Акалічны народ гуслі знаў гусляра;**
**Песня-дума за сэрца хапала;**
**Вакол гэтай думы дудара-званара**
**Казак дзіўных зляжылась нямала,** —

ці не пра сябе ў такой вобразнай форме сказаў Янка Купала?

Мяне цешыла дружба, якой былі сагрэты ўзаемаадносіны паміж Бянігдай Іванаўнай і Купалавай жонкай — Уладзіславай Францаўнай. Мабыць, такая садружнасць і стварала незвычайную гармонію Купалавага дома. Нездарма ж ён пісаў пра сваю Уладку — «Гэй, ты, дзяўчына, кветка-лілея...»

Калі скульптурны партрэт быў гатовы, менавіта гэтыя жанчыны сказалі самыя дарагія для мяне словы прызнання. Наўрад ці работа была такой дасканалай, але іх ухваленне вельмі акрыляла мяне.

Шчыра прызнаюся, мяне вельмі кранала тое, што партрэт Янкі Купалы, выкананы мною ў матэрыяле, захоўваўся ў доме паэта. Ведаю, што гэтага пажадала Бянігда Іванаўна. Аднойчы склала далоні і ціха сказала: «Хай бы ён у нас і застаўся...» Мабыць, дзядзька Янка палічыўся з яе воляй. У душы я надзвычай ганарыўся такім прызнаннем.

Неаднаразова звяртаўся я да вобраза паэта, імкнучыся выказаць сваё захапленне праз яго скульптурнае аблічча, каб уся прываблівая глыбіня чалавечай асобы Янкі Купалы была б адчувальнай для гледача. Заўсёды перачытваю ягоныя пранікнёныя і такія музычныя радкі. Многае ведаю на памяць. Калі я працаваў над партрэтам Янкі Брыля, ён гаварыў, што ўспрымае купалаўскую паэзію як магутную сімфонію, дзе гучыць усё — ад сумнай музыкі мінулай нядолі народа да радаснага пачуцця вольнага жыцця. Магчыма, гэта справядліва ўвогуле, для мяне ж у кожным творы Янкі Купалы адкрываецца гучанне якога-небудзь аднаго інструмента: ёсць вершы, якія працінае напеў жалейкі; ёсць — звонкія цымбалы; сустракаецца віяланчэльная партыя; часта адгукаецца скрыпка... Мабыць, гэта вельмі індывідуальнае — успрыманне паэзіі як музыкі. Толькі заўважу наступнае: мяне цешыць Купалава слова, падказанае яму маткай — Бянігдай Іванаўнай. Ці не ёй (або — таксама і ёй!) гаворыць паэт, калі паказвае лёс вясковага пастушка:

**Не плач, маці, і не злуйся**
**На жыццё.**
**Як я ў сілачку ўбяруся,**
**Змагу ўсё...**

Маці абяцае падлетак набрацца сілы, каб звацца чалавекам і быць здатным перамагчы ўсе перашкоды, забабоны, пагарду і пыху паноў. «Змагу ўсё!» — гэта ж прысяга аднаго з тых, хто потым пойдзе «ў агромністай такой грамадзе» змагацца за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Бянігда Іванаўна была вонкава сціплай жанчынай, трымалася ў доме як звычайная гаспадыня, але часам адчувалася ў ёй і высокая маральная годнасць, і ўсцешнае самаадчуванне працавітага чалавека, і шчасце далучанасці да сапраўднага хараства паэзіі, якое стварaў яе сын. Гэта не магло не ўплываць на самаадчуванне і Івана Дамінікавіча. Прынамсі, цяпер я разумею, чаму ён так даражыў дружбай з маці.

рэднікаў першым пасля перамогі Кастрычніка даў У. І. Ленін, на стэле ўшанавання памяці рэвалюцыянераў, пажадаўшы ўбачыць і імёны ідэолагаў, погляды якіх ён зваёўваў, як то М. А. Бакуніна, П. А. Крапоткіна, Г. В. Пляханава. Менавіта парушаючы гэты ленінскі прынцып адносін да вартых таго палітычных супраціўнікаў, мы да апошняга часу толькі з грознымі асуджальнымі эпітэтамі прадаўжаем успамінаць многіх з іх. У выпадку ж з « Нашай Нівай» справа ідзе не аб палітычнай рэабілітацыі кагосьці, а пра вызначэнне рэальных заслуг асобных гістарычных дзеячаў на тым этапе іх дзейнасці, калі яны былі на ўзыходзячых хвалях рэвалюцыі, спрыялі яе гістарычна-творчым працэсам, спрыялі гістарычнаму абуджэнню свайго народа, станаўленню яго літаратуры, мастацтва, мовы і дзейнасць якіх у агульным плане знаходзіла безумоўную падтрымку з боку У. І. Леніна, як то мы ва У. І. Леніна ўжо чыталі, цытуючы яго тэзіс аб агульнадэмакратычным змесце «ў кожным буржуазным нацыяналізме прыгнечанай нацыі».

«Наша Ніва» ёсць дзецішча тых, дзецішчам каго яна найперш была — кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай грамады. Яны — яе ініцыятары, арганізатары, хоць уласцівы сабе народны склад газета наперш займала ад лепшых літаратурна-мастацкіх сіл, вылучаных на той час народам, як і ад масавага чытача, карэспандэнта, творцы так званых масавай нашаніўскай паэзіі, прозы. Гэта потым з'явіліся лічбы: 906 карэспандэнцый з 489 вёсак за тры першыя гады існавання; 666 допісаў 427 карэспандэнтаў з 321 мясціны Беларусі — за адзін 1910 год. А напачатку былі адзіночкі-ініцыятары. Гэта потым згуртавалася плеяда нашаніўскіх пісьменнікаў, што збіраліся гады ў рады: у 1906 нашаніўцам стаў Якуб Колас, у 1907 — Янка Купала, Максім Багдановіч, у 1909—Цішка Гартны, Канстанцыя Буйло, у 1910—Змітрок Бядуля, у 1912 — Максім Гарэцкі. А напачатку былі — адзіночкі-арганізатары. Гэта ў выніку «Наша Ніва» стане ў цэнтры самага шырокага літаратурна-грамадскага руху ў Беларусі пачатку XX стагоддзя, якi абазначаў сабою, кажучы словамі У. І. Леніна, «прабуджэнне мас да ўладання роднай мовай і яе літаратурай», а напачатку былі адны ініцыятары-арганізатары».

Тым не менш, аддаючы належнае ініцыятарам і арганізатарам «Нашай Нівы», мы не можам не бачыць гэтых палітычных дзеячаў і літаратараў ва ўсёй складанасці іхніх узаемаадносін з супрацоўнікамі «Нашай Нівы», не можам не бачыць самой газеты ва ўсіх яе часта супярэчлівых ідэйна-палітычных і ідэйна-мастацкіх кірунках, не можам не бачыць «Нашай Нівы» ў яе эвалюцыі, залежнай ад грамадска-палітычных абставін, ад унутрана-рэдакцыйных спраў і канфліктаў, ад змены работнікаў у штаце рэдакцыі і змены рэдактараў газеты. Але не тое ўплывала на масавага чытача і працэсуальныя асаблівасці развіцця нашай літаратуры пачатку XX стагоддзя, што адбывалася ў рэдакцыі, якія ўзаемаадносіны былі паміж яе кіраўнікамі і супрацоўнікамі, як сам факт існавання газеты, сам яе агульнадэмакратычны дух, патрыятызм, рэвалюцыйны дэмакратызм, што так часта прабіваўся на яе старонкі з творамі Цёткі, Купалы, Коласа, Гартнага. «Наша Ніва» ў выніку стала для ўсёй беларускай літаратуры асноўнай пляцоўкай росту яе грамадска-палітычнага патэнцыялу і мастацкай непаўторнасці, а для народа — апірышчам, сімвалам краю, акумулятарам ідэй нацыянальнай кансалідацыі ў барацьбе з самадзяржаўем, ідэй славянскай супольнасці, еднасці з рускім і ўкраінскім народам у барацьбе за лепшае будучае. Стала для беларусаў «Наша Ніва» і школай іх далучэння да культурных здабыткаў народаў славяншчыны і свету, і першай пісьмовай сельскагаспадарчай акадэміяй. І калі мы заўсёды ацэньвалі нашаніўскае далучэнне мужыка-беларуса да спазнання імён і творчасці М. Горкага, Л. Талстога, А. Чэхава, У. Караленкі, В. Брусава, В. Бялінскага, М. Гогаля, А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, У. Сыракомлі, М. Канапніцкай, Э. Ажэшка, С. Жаромскага, Ф. Шапэна, Т. Шаўчэнкі, В. Стафаніка, то якраз той практычны вопыт, які імкнулася даць мужыку «Наша Ніва», ці ж не здаваўся ён нам, мякка кажучы, залішнім у той час, калі ён быў жыццёва патрэбным, натуральным як для газеты шыроканароднага асветніцкага характару. Іншымі словамі, якраз імкнучыся выяўляць поўню духоўных і матэрыяльных інтарэсаў простага народа, пераважна беларускага сялянства і блізкай да яго інтэлігенцыі, «Наша Ніва» і станавілася з ініцыятывы яе арганізатараў ужо не так дзецішчам саміх гэтых арганізатараў, як тых, для каго яна прызначалася, хто прыняў яе за сваю, хто ў рэшце рэшт зрабіў яе народнай газетай сваімі магутнымі літаратурнымі талентамі, вырастаючы ў Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага. Іншымі словамі, покліч сацыяльнага заказу чуйна ўлавілі ініцыятары і арганізатары «Нашай Нівы», насустрач яму пайшлі. І так як покліч зыходзіў ад народа, газета, спатаяляючы працу народа на ідэі сацыяльнага і нацыянальнага разняволення, на мастацкія каштоўнасці ў родным слове, не магла не стаць народнай. Прычым, унікальнанароднай, бо «Наша Ніва» не толькі афіцыйна не была органам якойсьці асобнай партыі, але і ніводзін з яе дзеячаў той ці іншай арыентацыі не быў у змозе прычэсваць яе рэдактарскім грабянцом пад вузка палітычныя схемы асобных палітычных праграм.

Мы, на жаль, да апошняга часу ўсё яшчэ, як мае быць, не даследавалі «Нашай Нівы» якраз як газеты народнай — ва ўсёй яе гістарычнай абумоўленасці і нацыянальнай спецыфічнасці. Мы часам усё яшчэ знаходзім нібы прыніжэнне аўтарытэту і гістарычнага значэння «Нашай Нівы», тэндэнцыю да яе ачарнення там, дзе на самой справе нагоды для таго няма, а ёсць толькі спробы вачыма рэальных удзельнікаў вялікай справы тварэння «Нашай Нівы» зазірнуць за рэдакцыйную шырму, пераступіўшы парог параднага пад'езду, за якім, на жаль, рэальна не ўсё заўсёды было парадным, як і ў любым асяродку, дзе сутыкаюцца ідэі, характары, будзённыя і небудзённыя інтарэсы. Бачыць жа ў спробах раманізацыі асобных дзеячаў «Нашай Нівы» іх дэгераізацыю — гэта, па меншай меры, наіўна, гэтак жа, як і ў цэлым катэгарычнае патрабаванне ідэалізацыі ініцыятараў і арганізатараў «Нашай Нівы» выяўляе ні больш, ні менш, як правінцыялізм і недастаткова высокую культуру нацыянальнай самасвядомасці некаторай часткі нашай творчай інтэлігенцыі, што беспадстаўна ў кагорце нацыянальных дзеячаў нашага гістарычнага мінулага хоча бачыць адных толькі забранзавелых герояў, а не людзей з іх жывымі ідэямі і характарамі, з іх неамыльнасцю і памылкамі, з іх рамантычнымі страсцямі і бытавымі звычкамі.

«Наша Ніва» як народная газета несумненна заслугоўвае ў нас свайго шырокага ўсенароднага ўшанавання, і, пэўна, адной з лепшых яго форм стала б утварэнне на першым часе ў Вільні і Мінску літаратурных музеяў «Нашай Нівы», як і падрыхтоўка газеты да яе факсімільнага выдання пад яе, так сказаць, будучыя юбілейныя даты.

Мая ЛЬВОВІЧ

# ХАЦЕЎ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА РАДАСЦІ...

**У 1972 г. я перакладала вершы А. Сербантовіча, якога ўжо не было ў жывых. Знайсці блізкіх паэта, даведацца пра яго як мага болей, прачытаць пераклады — усё гэта ўзяў на сябе Варлен Бечык. Мы сустракаліся, калі я прыязджала ў Каралішчавічы, гаварылі па тэлефоне, перапісваліся, абменьваліся сваімі публікацыямі і іншай літаратурай, ён дасылаў беларускую, я—украінскую. Мне вядомы былі ягоныя жыццёвыя клопаты, творчыя трывогі, настрой, здароўе. Заўсёды страшна было за яго, каб не сарваўся, не зламаўся, надта ж многа браў на плечы. У сярэдзіне кастрычніка 1985 г. я даведалася, што ён хворы, што падазраюць найгоршае. Не атрымаўшы віншавання з Кастрычнікам, я захвалявалася. Званіла, нікога не заставала. Атрымала пісьмо ад сябра, што ён у бальніцы, што яго аперыравалі. І вось — «Пахавалі Варлена»...**

**Лекамі для мяне былі вершы-пісьмы да яго, ужо нежывога. Да іх далучыліся і тыя, што напісаны былі пры яго жыцці. Іх я сама паспрабавала пераласці на беларускую мову.**

**Гэта інтымная лірыка. Прысвячэнне толькі называе крыніцу. Постаць у шэрым гарнітурчыку на дарозе, у дзвярах канферэнц-залы, у кабінеце. Ззяючы твар, калі мы сядзім на юбілейным вечары і нехта чытае прывітанне па-ўкраінску, — Варлен па-хлапечы падштурхоўвае мяне, рады. Вязе мяне, хворую, дамоў, трымае за гузік паліто. Самотныя пісьмы яго да мяне ў бальніцу. Просьба ў пісьме, калі выйшла мая кніжачка: «Радуйцеся!» Хацеў для чалавека радасці...**

●

«Гэта, аднак, прэч. Адносна вашага рукапісу...».
З апошняга пісьма

«Гэта, аднак, прэч».
Іншы ты маеш клопат.
Прэч. Не зважаеш на меч
Дамоклаў.

Як нізка навіс, —
Не бачыш, не верыш.
І ўвесь ліст
Пра мае вершы.

Пакуль яшчэ той дамоклаў
Упадзе меч,
Усё, што толькі можаш,
Аддаеш.

Меч... На валасіну
Ад галавы.
Для мяне можаш адзінае —
Жыві.

●

Згубіўся дзесьці на пошце «ЛіМ»,
Дашліце нумар з партрэтам тым,
Старoначку, дзе прамовы жалобныя,
Дзе сяброў развітальныя словы.
І яго словы дашліце мне,
Апошнія дні дашліце ў пісьме.
Каб я змагла заплакаць, затужыць,
Каб паслала тугу, дзе ён ляжыць.
Перасмягла горла — няма.
Ці з камення туга мая?
Ці слёзы мае замерзлі,
Ці не ўмею, не разумею смерці?
Ці грэх? Не прыйшоў з рамкаю «ЛіМ»,
І калі затужыла я, дык аб жывым.

●

Ёсць рана свежая. А быў той свежы ранак,
Якім пачаўся вераснёвы дзень,
Калі пастукаліся ў дзверы разам
Вы і Варлен.

Ёсць рана свежая. Быў ранка свежы ўздых,
Быў свежы мох, нічым нікчэмным не парушаны,
Яловаю іглiцай прыцярушаны.
Як добра нам маўчалася ўтраіх.

Пачаўся ранкам вераснёвы дзень.
Няма канца яго над намі ўладзе.
Там болей не былі ў поўным складзе.
Пайшоў Варлен.

І нечаканы крок, і непапраўны,
Апошні крок яго, апошні ўздых.
Але быў каралішчавіцкі ранак
І мы ўтраіх.

